# ЛіМ ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

27 жніўня 2004 г. № 35/4272


## АНОНС!



### "Песня пра зубра" —помнік элітарнай культуры Беларусі

**Элітарная культура народаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы на рубяжы XV — XVI стагоддзяў падвяргаецца так званай лацінізацыі. Лацінская мова і літаратура на ёй становяцца ў гэты час неад'емнымі часткамі і беларускай культуры.**

СТАР. 7

### Будзем лепшае глядзець!

**Яшчэ не восень, а нагадаў пра сябе... "Лістапад". Мінскі міжнародны кінафорум абяцае разнастайную змястоўную праграму, з праектам якой пазнаёмілі сталічных журналістаў дырэктар фестывалю Валянціна Сцяпанава і яго прэзідэнт Расціслаў Янкоўскі.**

СТАР. 11



"Мой абавязак як главы дзяржавы ў тым, каб у нашай краіне былі створаны ўмовы для нармальнага жыцця людзей і ў сем'ях быў дастатак. Каб дарослыя былі забяспечаны працай, а дзеці маглі вучыцца. Каб былі даступнымі лекі, прадукты харчавання, тавары шырокага ўжытку. Каб школы, дамы творчасці, установы культуры былі абсталяваны сучаснай камп'ютэрнай тэхнікай."

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь
А. Р. Лукашэнка

# З Балгарыяй — сур'ёзна...

Сярод нядаўніх і перспектыўных падзей гэтага лета вылучаецца падпісанне пратаколу аб супрацоўніцтве паміж міністэрствамі культуры Беларусі ды Балгарыі.

Нашы краіны — і нашы літаратуры! — заўсёды былі ў дружалюбных, братніх адносінах. А новае пагадненне, замацаванае подпісамі двух міністраў — Леаніда Гулякі ды Бажыдара Абрашава, паспрыяе далейшаму развіццю сяброўства і ўзаемадзеяння ў розных сферах мастацкай творчасці.

Прынамсі, мяркуецца супольны ўдзел у значных фестывальных праектах, арганізацыя выставак і тэатральных акцый, абмен Днямі культуры, супрацоўніцтва ў бібліятэчнай справе. А яшчэ — развіццё кантактаў у галіне музычнага мастацтва. Глеба для гэтага, дарэчы, падрыхтавана. Напрыклад, кожнае лета балгарскія спевакі наведваюцца ў Віцебск, на Міжнародны фестываль "Славянскі базар": маладыя прыязджаюць на конкурс выканаўцаў эстраднай песні, а больш сталыя і ўжо знакамітыя — у якасці ўдзельнікаў канцэртных праграм і членаў журы. І цяпер ужо вырашана ў наступным годзе падчас фестывалю "Славянскі базар у Віцебску" асобны дзень прысвяціць Балгарыі — пакуль жа маюць свае дні з гала-канцэртамі толькі тры ўсходнія "славянкі": Беларусь, Расія, Украіна.

А вось — іншы факт: выдатны беларускі вакальны ансамбль "Камерата" даўно ўжо мае ў сваім рэпертуары балгарскую музыку. І гучыць яна ў выкананні нашых спевакоў арыгінальна і проста класна! І гэта, вядома ж, не адзінкавы прыклад цікавасці беларусаў да мастацкіх традыцый блізкага нам народа. Дзеля паглыблення беларуска-балгарскіх культурных сувязяў плануецца таксама наладзіць кантакты паміж Беларускай акадэміяй музыкі і аналагічнай навучальнай установай Балгарыі. А калі на міжнародным узроўні супрацоўнічаюць педагогі, кантактуюць студэнты — гэта ўзбагачае ўсіх.

С.Б.

# А ў нас — "Лепшае"!



У Грэцыі — Алімпійскія гульні, а ў нас на Беларусі — свае захапляльныя імпрэзы. 14 — 15 жніўня адбыўся Трэці фэст сярэднявечнай культуры "Наваградскі замак". Арганізатары прысвяцілі яго 960-й гадавіне нашага старажытнага горада — першай сталіцы Вялікага княства Літоўскага. У друку загадзя была змешчана праграма свята. Яго, скажам так, эпіцэнтрам зрабіліся чатыры пляцоўкі. Тут можна было і паглядзець абсталяванне рыцарскага шатра, і зазірнуць у зброй-ную майстэрню, і паназіраць за працай кавалёў, ганчароў, майстроў лоза- і саломапляцення, і пакаштаваць стравы, прыгатаваныя паводле сярэднявечных рэцэптаў, і павучыцца традыцыйным беларускім танцам, і... Пералік, як гаворыцца, можна працягваць.

Кульмінацыйным відовішчам стаўся рыцарскі турнір, прынамсі, інсцэніроўка штурму Наваградскага замка, спаборніцтва цяжкаўзброеных рыцараў без абмежавання правілаў, сярэднявечная забава "Бег вікінгаў"...

Але ж якое свята — без музыкі! Канцэрты ладзіліся на цэнтральнай гарадской плошчы: выступалі беларускія гурты, а таксама нашы госці з блізкага замежжа. Яны гралі дзівосную, амаль экзатычную старадаўнюю музыку. А таксама і пад яе, і пад фальклорныя найгрышы разгортваліся танцавальныя нумары — узоры харэаграфіі беларусаў ды іншых еўрапейскіх народаў.

Фэст "Наваградскі замак" — гэта чарада захапляльных падзей, сотні ўдзельнікаў і многія тысячы гасцей. У атмасферы панавала гармонія рамантычных пачуццяў, шчырых учынкаў, высакародных манер і — прыгожых мелодый. Стылізаваны кантэкст Сярэднявечча дапоўніла і своеадметная нота нашага вельмі папулярнага цяпер дуэта «Аляксандра і Канстанцін». Пад наваградскім небам артысты правялі прэзентацыю свайго новага дыска, які атрымаў кароткую немудрагелістую назву: «Лепшае».

Я.КАРЛІМА



# Творчая сустрэча

Днямі па запрашэнні Міністэрства абароны РБ група беларускіх пісьменнікаў у складзе Алеся Савіцкага, Уладзіміра Карызны і Яўгена Каршукова наведала 72-гі Аб'яднаны вучэбны цэнтр падрыхтоўкі прапаршчыкаў і малодшых спецыялістаў.

Гэта — своеасаблівая вайсковая арганізацыя, у якой паспяхова рыхтуюць ваеннаслужачых больш чым па 100 спецыяльнасцях для Узброеных Сіл нашай рэспублікі, якія годна папоўняць падраздзяленні танкавых, артылерыйскіх, ваенна-паветраных сіл і войскаў супрацьпаветранай абароны, сувязі і іншых.

Пісьменнікі з вялікай цікавасцю пазнаёміліся з вучэбным гарадком. Аддаючы належнае гісторыі вучэбнага цэнтра, наведалі алею герояў Вялікай Айчыннай вайны: 69 Герояў Савецкага Саюза дало Радзіме гэтае вайсковае падраздзяленне...

Суправаджаў нас старажыл гарадка, намеснік начальніка вучэбнага цэнтра палкоўнік Яўген Іосіфавіч Клебан.

— У нас з пісьменнікамі даўняя і сталая дружба, — сказаў ён, прыгадваючы ранейшыя творчыя сустрэчы. — Дзякуй вам шчыры і за гэты прыезд, за тое, што вы мастацкім словам памагаеце выхоўваць воінаў у духу высокага патрыятызму, любові да Радзімы.

У зале Палаца культуры вучэбнага цэнтра адбылася сустрэча пісьменнікаў з курсантамі, прысвечаная 60-й гадавіне Вялікай Перамогі над фашысцкай Германіяй. З асаблівай увагай слухалі вайскоўцы выступленне ветэрана вайны, вядомага пісьменніка Алеся Савіцкага, які расказаў пра свой баявы шлях, пра творы, напісаныя ім на тэму барацьбы савецкіх людзей супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Дарэчы, і ён, і Уладзімір Карызна былі вельмі ўсцешаны, убачыўшы ў адной з вучэбных аўдыторый часопіс "Нёман" са сваімі творамі: чытаюць!

Падчас сустрэчы курсанты атрымалі ў падарунак кнігу "Наша Перамога", падрыхтаваную і выдадзеную рэдакцыйна-выдавецкай установай "Літаратура і Мастацтва" з аўтографамі пісьменнікаў.

М. ІВАНОЎСКІ

## ВЫДАННІ

У Беларусі з'явіцца "Лясная энцыклапедыя". Да яе стварэння прыступаюць у выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя". Варта адзначыць, што двухтомная энцыклапедыя задумана як даведачнае навукова-папулярнае выданне, чытачы якога атрымаюць магчымасць даведацца пра ўсё зляснога жыцця — раслінны і жывёльны свет, тыпы насаджэнняў, лясныя пароды, метады аховы і ўстойлівае лесакарыстанне, перапрацоўку лясной прадукцыі.

Плануецца, што ў падрыхтоўцы фундаментальнага даведніка прымуць удзел супрацоўнікі міністэрстваў лясной гаспадаркі, прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, вучоныя Інстытута леса Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

Марына ЦЯРЭШЧАНКА

***Лета — сезон адпачынкаў; але некаторыя творчыя людзі ў адпачынак не сыходзяць. Гэта перш за ўсё артысты тэатраў, што накіроўваюцца на гастролі, каб зарабіць нейкую капейку ды сябе прадэманстраваць замежнаму гледачу. Часам гэта атрымліваецца, часам — не.***

# Оперны трыумф у Сопаце

Звелізарным поспехам 6 жніўня прайшло ў польскім курортным Сопаце выступленне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Рэспублікі Беларусь з пастаноўкай "Князь Ігар" Аляксандра Барадзіна. Спектакль паглядзелі каля 2000 польскіх гледачоў. Пасля чаго шчыра ўзнагародзілі выканаўцаў 20-хвілінным авацыямі.

Гэта першае выступленне беларускіх выканаўцаў пад мастацкім кіраўніцтвам Маргарыты Ізворскай на сцэне Сопацкага опернага тэатра. Твор у выкананні беларускіх артыстаў быў прадстаўлены ў рамках Сопацкага опернага фестывалю і адбыўся пад ганаровым патранатам пасла Рэспублікі Беларусь у Польшчы.

У ролі Князя Ігара выступіў Мікалай Майсеенка, у ролі Яраслаўны — Ірэна Журко, у ролі Князя Галіцкага — Васіль Кавальчук.

На прадстаўленні прысутнічалі прэзідэнты гарадоў Сопат, Гдыня і Гданьск, кіраўніцтва Паморскага ваяводства. Прыемна, што выступленне нашых артыстаў асвятлялі Першы, Другі і Трэці каналы Польскага тэлебачання, Польскае радыё. Уся гэтая дзея адбылася на асаблівай сцэне — на "Лясной оперы" Сопата, — якая размешчана ў жывапісным лясным урочышчы. Дарэчы, у жніўні гэтага года "Лясная опера" адзначае сваё 95-годдзе.

Вялікі поспех "Князя Ігара" ў Сопаце стаў чарговым трыумфам беларускага опернага мастацтва на еўрапейскай сцэне. Польскія крытыкі і гледачы ў сваіх водгуках выказваюць надзею на працяг знаёмства з мастацтвам беларускіх майстроў.

Варта адзначыць, што прэм'ера спектакля "Князь Ігар" адбылася ў С.-Пецярбургу ў 1890 годзе. А польскія гледачы ў першы раз пазнаёміліся з ёй у 1935 годзе ў г.Познані.

Ну а беларускія артысты накіраваліся пакараць Германію.

# Балет асвісталі ў Лондане

Расійскі Вялікі тэатр адкрыў гастролі ў Лондане балетам "Рамэа і Джульета", які брытанскія крытыкі і публіка палічылі правальным.

"The Guardian" піша, што пастаноўка была "асвістаная". Перш за ўсё таму, што акцёры не палічылі неабходным праз танец... выказаць індывідуальнасць сваіх герояў. Характар персанажа ўдалося ў нейкай ступені прадэманстраваць толькі Марыі Аляксандравай — Джульеце, але і яна атрымала ад газеты мянушку "дыска-дзяўчынка".

На думку "The Independent", рэжысёр-пастаноўшчык Дэклан Донелан, які ўпершыню ўзяўся за балет, не ведае, як працаваць з танцорамі, — "з яго кепскі харэограф".

Музыку Пракоф'ева "наўмысна спаганілі", а "Шэкспірам у балеце і не пахне", заключае "Financial Times": гэта пастаноўка прыніжае знакаміты Вялікі.

Мікалай АНІШЧАНКА

ВЫНІКІ

# Навуўвядзенні? Магчыма

Ну вось, нарэшце, можна падвесці вынікі прыёмнай кампаніі-2004. Як сведчыць статыстыка, усяго на 24 тысячы бюджэтных месц у дзяржаўных ВНУ прэтэндавала больш за 72,5 тысячы абітурыентаў. Сярэдні конкурс па рэспубліцы склаў 3 чалавекі на месца. Аднак, сярэдні — не значыць аднолькавы. Да прыкладу, у Беларускі дзяржаўны эканамічны універсітэт на першым патоку было 5,5 чалавека на месца. Амаль такія ж высокія конкурсы былі ў Белдзяржуніверсітэце, Гомельскім інжынерным інстытуце МНС РБ, Каманднa-інжынерным інстытуце МНС РБ, медуніверсітэце і іншых.

На некаторыя прэстыжныя спецыяльнасці конкурс сёлета падвысіўся з-за абітурыентаў-ільготнікаў; пасля атрымання станоўчых адзнак на іспытах, яны ішлі па-за конкусам, і з таго не пакідалі аніякай надзеі астатнім на вольныя месцы ў спісах студэнтаў, як і ў студэнцкіх аўдыторыях. Яшчэ адна прычына штучнага падвышэння: скарачэнне бюджэтных месцаў на спецыяльнасці юрыдычнага і эканамічнага профілю на 30—50 працэнтаў.

Як адзначаюць спецыялісты, прыемна, што паступова расце цікаўнасць нашых маладых суайчыннікаў да інжынернатэхнічных спецыяльнасцяў. Ім месца на рынку працы хапае. А вось юрыстаў і эканамістаў працоўны рынак чакае не вельмі ахвотна, аднак жадаючых атрымаць гэтыя прафесіі не паменшылася.

Што паказала сёлетняя прыёмная кампанія? Па-першае, яна прайшла якасна і прафесійна, без парушэнняў. Да таго ж афіцыйна не было ўстаноўлена ніводнага факту хабарніцтва.

А яшчэ: хвалюючая кампанія паказала, што магчымыя навуўвядзенні для абітурыентаў-2005! Не выключана, што наступным летам сярод пераліку абавязковых прадметаў для тэсціравання дадасца яшчэ і матэматыка. Прычым, такое рашэнне падказалі самі ВНУ. А ўсё з-за таго, што на пераважнай большасці спецыяльнасцяў у пералік абавязковых уступных іспытаў уваходзіць матэматыка, — вось і лагічна было б яе "цэнтралізаваць". Пры гэтым многія ВНУ згодныя пакінуць, як кажуць, за сабой... толькі адзін іспыт.

А некаторыя могуць нават абысціся без сваіх уступных нерваванняў! Прэцэдэнт ужо створаны. Пасля першага тура прыёмнай кампаніі было прынята рашэнне праводзіць усе уступныя іспыты ва ўсіх рэгіянальных медыцынскіх ВНУ ў форме тэсціравання з дапамогай Рэспубліканскага інстытута кантролю ведаў. Такім чынам, не магло быць сярод абітурыентаў ні "любімчыкаў", ні "патрэбных" людзей; так званы чалавечы фактар на адзнакі паўплываць не мог. Таму што ўсе адзнакі адпраўляліся на месцы па электроннай пошце з аднаго цэнтра.

Так што засталося павіншаваць маладых, якія атрымалі магчымасць правесці лепшыя гады ў студэнцкай кампаніі. І пажадаць тым, хто яшчэ вучыцца ў старэйшых класах школы, рыхтавацца да... тэсціравання.

**ВІКа**

# Студэнты ЕГУ папаўняюць рады БДУ

670 заяў нядаўніх студэнтаў Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта пададзена ў БДУ з просьбай аб працягу вучобы. Усе яны будуць атрымліваць спецыяльнасці, якім навучаліся ў ЕГУ. Каля 300 чалавек працягнуць навучанне на факультэце міжнародных адносінаў, 200 будуць прыняты на гуманітарны факультэт БДУ, які адкрываецца на базе філіяла Белдзяржуніверсітэта ў Маскве і размяшчаецца па вуліцы Курчатава ў Мінску, а больш за 100 хлопцаў і дзяўчат залічваюцца на гістарычны факультэт.

Як ужо паведамлялася раней, факультэты Белдзяржуніверсітэта бяруць на сябе дадатковую нагрузку па арганізацыі навучання студэнтаў па пераходных планах. Пытанні ліквідацыі акадэмічнай розніцы, якая ўтварылася пры пераводзе ў БДУ, будуць разглядацца канкрэтна з кожным студэнтам з улікам яго магчымасцей. Кошт навучання ў Белдзяржуніверсітэце на працягу першага года захаваецца на тым жа ўзроўні, які быў устаноўлены ў ЕГУ, а затым прыведзены ў адпаведнасць з тым, які прыняты ў БДУ і з улікам льгот, што дзейнічаюць у вузе. Тэрміны пачатку навучання ў 2004 — 2005 годзе будуць вытрыманы ў адпаведнасці з працоўным планам ЕГУ. На гуманітарным факультэце студэнты пачнуць вучыцца з 1 кастрычніка, а на астатніх — з 1 верасня.

Сярод паступіўшых у больш цяжкім становішчы будуць тыя, хто працягвае навучанне на апошнім, пятым, курсе. Ім трэба будзе праслухаць дадатковыя вучэбныя дысцыпліны і здаць па іх экзамены і залікі. У Белдзяржуніверсітэце спадзяюцца, што на працягу вучэбнага года занава паступіўшыя хлопцы і дзяўчаты адаптуюцца ў студэнцкім калектыве БДУ.

**Н.К.**

# Гісторыя аднаго лёсу




Усім вядомы фільмы Міхаіла Пташука паводле твораў беларускіх празаікаў "Вазьму твой боль" (І.Шамякіна), "Знак бяды" (В.Быкава), "Чорны замак Альшанскі" (У.Караткевіча) і многія іншыя карціны гэтага знакамітага кінарэжысёра, жыццё якога трагічна абарвалася на самым узлёце. Як сказаў пра яго Іван Шамякін, "Смерць кожнага чалавека — страта для грамадства, смерць чалавека, якому Бог даў талент, — нацыянальная трагедыя".

Выдавецтва "Мастацкая літаратура" выпусціла ў свет другую пасля "Ноты судьбы" (пра У.Мулявіна) з запланаванай серыі "Жизнь замечательных людей Беларуси" кнігу "Михаил Пташук", прэзентацыя якой адбылася 13 жніўня ў Грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы. У прэс-канферэнцыі бралі ўдзел: дырэктар выдавецтва "Мастацкая літаратура" Уладзіслаў Мачульскі, галоўны рэдактар выдавецтва Віктар Праўдзін, намеснік галоўнага рэдактара выдавецтва Віктар Шніп, кінарэжысёр Уладзімір Арлоў.

Укладальнікам кнігі "Михаил Пташук" з'яўляецца яго ўдава Лілія Пташук. Яна ўключыла сюды: багаты фотаматэрыял (больш за 250 здымкаў); успаміны самога кінарэжысёра, звязаныя з яго дзяцінствам, юнацтвам, асноўнымі вехамі творчай біяграфіі; дагэтуль не апублікаваны сцэнарый мастацкага фільма "Ангел-хранитель"; згадкі пра М.Пташука вядомых дзеячаў культуры, літаратуры і мастацтва, сярод якіх М.Міхалкоў, Г.Данелія, У.Гасцюхін, Г.Гарбук, Р.Баравікова, А.Дудараў і інш. (усяго каля 20 чалавек). У адпаведнасці са змешчаным матэрыялам кніга мае 4 раздзелы: "Исповедь кинорежиссера", "Сценарий художественного фильма", "Публикации", "Воспоминания".



Паводле слоў У.Мачульскага, гэта кніга, выдадзеная на міжнародным узроўні, мае тыраж 2000 асобнікаў і разлічана на расійскі рынак. Хутка яна будзе прадстаўлена на Міжнародным кніжным кірмашы, што адбудзецца ў Маскве з 1 па 6 верасня. Разам з тым выданне плануецца прадставіць на свяце славянскага пісьменства ў Тураве, а ў кастрычніку яго павязуць у Нямеччыну (Франкфурт).

Міхаіл Пташук — асоба, вядомая ў свеце, а яго фільмы блізкія звычайным людзям, любімыя многімі. І, як падкрэсліў В.Праўдзін, "Простыя беларускія людзі таксама хочуць сказаць свае слова — падзяліцца ўражаннямі, даслаць успаміны ад сустрэч з гэтым знакамітым чалавекам." Значыць, працяг яшчэ будзе.

**Наталля ДЗЯНІСАВА**

## Абсягі

ГРОДЗЕНШЧЫНА

### Кнігі пра мужнасць і вечны боль

"Отцы и дети из 41-го" — так называецца выдадзеная нядаўна ў Гародні кніга Іраіды Макеевай. У ёй змешчаны поўныя мужнасці і жалю аповеды ўдзельнікаў першых баёў з фашыстамі на заходняй мяжы, у ваколіцах Гродна, іншых гарадоў і мястэчак Прынямоння. Не менш хвалюючыя сведчанні жонак і дзяцей вайскоўцаў чэрвеня 1941 года.

Гэта другое, дапоўненае выданне кнігі, якая выйшла пад такой назвай два гады таму назад. У ёй, дарэчы, апублікаваны і вершы тых, хто абараняў Айчыну ў тыя цяжкія дні, а таксама копія ліста І.Макеевай ад вядомага паэта Яўгена Далматоўскага. У ім пісьменнік з удзячнасцю і хваляваннем ацэньвае пошукавую працу Іраіды Яфімаўны.

Напрыканцы застаецца сказаць, што вынікам больш чым паўвекавога пошуку І.Макеевай сталі чатыры кнігі з успамінамі герояў абаронных баёў лета 1941 года. Зараз нястомная працаўніца рыхтуе да выдання яшчэ адну кнігу і займаецца стварэннем адмысловага музея.

### Маршруты памяці творцаў-сяброў

Сумная і ў той жа час узнёслая ўрачыстасць моцна ўразіла жыхароў вёскі Больцішкі і навакольных паселішчаў Воранаўскага раёна. У цэнтры сельсавета і тутэйшага сельгасказаператыва адкрыты помнік Невядомаму салдату, які загінуў летам 1944 года пры вызваленні Воранаўшчыны. Аўтарам памятнага знака з каменя-валуна з'яўляецца лідскі скульптар Рычард Груша.

На ўрачыстым мітынгу прадстаўнікі розных пакаленняў усхвалявана гаварылі пра вялікі подзвіг нашага народа ў мінулай вайне, выказвалі ўдзячнасць майстру з недалёкай Ліды. Прыемна ўразіла прысутных тое, што разам з Рычардам Баляслававічам прыехалі да вяскоўцаў народны ансамбль яўрэйскай музыкі "Шалом" і народны тэатр песні "Ліда-мюзікл". Гэтыя калектывы пад кіраўніцтвам Міхаіла Дзвілянскага і Ігара Ворана падарылі слухачам шмат цудоўных песень аб роднай Беларусі і яе мужных абаронцах.

Плён цеснай садружнасці музычных калектываў з Рычардам Грушам, які яшчэ вядомы як таленавіты мастак і паэт, становіцца ацэнілі не толькі ў лідскім рэгіёне. Згаданыя калектывы з поспехам выступілі сёлета ў Брэсце, Свіслачы, Полацку пасля адкрыцця там выставы і памятных знакаў Р.Грушы.

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ**


Ліда

## Насыціць ваду кіслародам

Праект беларускіх вучоных па стварэнні сонечнай станцыі аэрацыі вады зацікавіў калег з Мадрыдскага універсітэта. Паведамленне аб намеры прыняць удзел у яго рэалізацыі атрымалі аўтары навукова-тэхнічнай распрацоўкі, сярод якіх спецыялісты Інстытута энергетыкі АПК і Інстытута рыбнай гаспадаркі НАН, а таксама Беларускага дзяржаўнага універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі. Трэба адзначыць, што праект прадугледжвае стварэнне ўстаноўкі, прызначанай для патрэб прамысловага рыбалоўства. Справа ў тым, што значная колькасць рыбы ў стаўках гіне ад недахопу кіслароду ў вадзе. Каб папоўніць яго дэфіцыт і забяспечыць умовы для эфектыўнага рыбалоўства, вучоныя сканструявалі ўстройства, якое заснавана на выкарыстанні сонечнай энергіі. Яно складаецца з сістэмы сонечных фотаэлементаў, акумулятараў і аэратараў, якія насычаюць ваду кіслародам. Прадугледжана і магчымасць асвятлення ўначы, што будзе спрыяць дапаўняльнай выпрацоўцы кіслароду раслінамі, а таксама прынаджваць насякомых.



Акрамя таго, праект прадстаўлены на разгляд у Міжнародны навукова-тэхнічны цэнтр і падтрыманы іспанскімі спецыялістамі.

## Дыстанцыйны... градуснік

Незвычайны градуснік — дыстанцыйны тэрмометр — стварылі вучоныя Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Зараз магчыма вымяраць тэмпературу любых аб'ектаў, не дакранаючыся да іх, што асабліва важна пры вытворчасці металічных, шкляных і сілікатных вырабаў. Спатрэбіцца прыбор і для кантролю цеплавых страт на прадпрыемствах, бо яму не перашкода ні цяжкадаступныя месцы, ні высокае напружанне. Паводле меркаванняў спецыялістаў, прыбор можна выкарыстоўваць у біялогіі і медыцыне. Дарэчы, дыяпазон вымяральных ім тэмператур дастаткова шырокі — ад мінус 30 да плюс 1000 градусаў па Цэльсію.

## Раслінамі — па дэпрэсіі!

Навукова-вытворчае прадпрыемства "Дыялек" канцэрна "Белбіяфарм" засвоіла выпуск эфектыўнага прэпарата для здымання дэпрэсіі. У аснове дыігіперона (так называецца лекавы сродак) раслінная сыравіна. Прэпарат уяўляе сабой экстракт святаянніка (зверабою). Гэта культура лічылася лекавай раслінай яшчэ ў Старажытных Грэцыі і Рыме. У народзе яе называюць "травой ад 99 хвароба". Магчыма, столькі ж карысных рэчываў змяшчаецца і ў расліне.

Клінічныя выпрабаванні лекавага сродка выявілі не толькі яго высокую антыдэпрэсіўную эфектыўнасць, але і паказалі шэраг іншых важных уласцівасцяў, напрыклад, стымуляванне антыстрэсавай актыўнасці і здыманне сіндрому хранічнага стамлення. У адрозненне ад сінтэтычных антыдэпрэсантаў, дыігіперон не дае пабочных з'яў, такіх як санлівасць і няўважлівасць. Вынікі даследавання, у якім прымала ўдзел 65 вадзіцеляў, хворых на дэпрэсію, сведчаць аб тым, што прэпарат не аслабляе здольнасць канцэнтрацыі ўвагі і не замядляе рэакцыю. Акрамя таго, ён перспектыўны для лячэння такіх ндугаў, як няўважлівасць, часты турботны стан, парушэнне сну. Менавіта гэтыя сімптомы з'яўляюцца папярэднікамі цяжкіх дэпрэсіўных растройстваў, якія часцей за ўсё характэрны аператарам складаных машын, пілотам, вадзіцелям, а таксама прадстаўнікам творчых прафесій.

## Пра стан вады раскажа...

Спецыялісты кафедры фізіялогіі і біяхіміі раслін Беларускага дзяржаўнага універсітэта сканструявалі прыбор для кантролю якасці вады "Біятэст". Навіна распрацоўкі ў тым, што ў ёй выкарыстана біятэхналогія. Індыкатарам забруджвання ў прыборы выступаюць клеткі водарасцяў, якія хутка рэагуюць на змяненні ў складзе вады. Такая тэхналогія кантролю якасці ў параўнанні з традыцыйнай мае шэраг перавагаў.

Зараз у свеце існуе больш шасці мільёнаў розных хімічных злучэнняў. Зразумела, ніводны апарат не можа выявіць склад столькіх матэрыяў. А выкарыстанне хімічнага метаду аднакі вады, які аналізуе склад толькі 20 элементаў, малаэфектыўны. Перавага створанага прыбора ў тым, што праводзіцца не аналіз складу кожнага элемента, а агульная адзнака стану вады. Вартасць біялагічнага метаду яшчэ ў тым, што ён значна інфарматыўней, на аналіз ідзе значна менш часу, не патрабуецца буйных капіталаўкладанняў. Дарэчы, распрацоўкай вучоных зацікавіліся калегі з Біятэхналагічнага цэнтра акадэміі навук у правінцыі Шандун. Ужо з імі падпісана пагадненне аб супрацоўніцтве, згодна якому прыбор праходзіць выпрабаванні ў Кітаі. Плануецца наладзіць і яго серыйную вытворчасць.



## Лепшы і якасны... пясок

. Высакаякасны пясок для будаўнічых вырабаў пачалі вырабляць на сталічным прадпрыемстве "Нерудпрам". У адрозненне ад звычайнага пяска, у ім практычна няма гліны, а склад значна палепшаны і ўяўляе сабой гранулы памерам ад аднаго да пяці міліметраў. Складанне гравію ў распрацоўцы мінімальнае, таму і выглядае прадукт больш прыцягальна. Праведзеныя сумесна са спецыялістамі Беларускага нацыянальнага тэхнічнага універсітэта даследаванні паказалі, што існаванне пяску вышэйшага класа робіць цэмент больш трывалым, а таксама вядзе да змяншэння яго расходаў на 10 — 15 працэнтаў. А бетон атрымліваецца значна якасней. У перспектыве "Нерудпрам", які з'яўляецца адным з асноўных вытворцаў будаўнічых матэрыялаў у Мінску і вобласці, пачне выпускаць прафільтраваны пясок для сухіх сумесей, у прыватнасці, тынку.

## Мадыфікавалі КР-02

Спецыялісты рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра "Кардыялогія" і інжынерна-прамысловага прадпрыемства "Кардыян" распрацавалі новую мадыфікацыю кардыярэгістратара КР-02. Апаратура прызначана для аналізу і кантролю асноўных відаў сардэчных арытмій. Пацыент на працягу сутак носіць з сабой партатыўны прыбор, які фіксуе парушэнні рытму сэрца, каранарную недастатковасць, асаблівасці нервовай рэгуляцыі рытму сэрца. Пасля гэтага дадзеныя заносяцца ў дыягнастычную станцыю, створаную на базе персанальнага камп'ютэра, які за дзве хвіліны іх апрацоўвае і выдае дыягназ.

У адрозненне ад папярэдняй версіі прыбора КР-01, у кардыярэгістратары выкарыстоўваецца новая дыягнастычная тэхналогія, якая дае магчымасць больш дакладна высветліць паталогію сэрца. Такім чынам, урач, згодна атрыманых дадзеных, назначае індывідуальны метад лячэння для кожнага пацыента. Серыйны выпуск КР-02 плануецца наладзіць на базе інжынерна-прамысловага прадпрыемства "Кардыян".

## Як пачуваецеся?

Вучоныя Беларускага дзяржаўнага універсітэта распрацавалі лячэбна-дыягнастычны блок "ЛЭДЗІС-2К". Ён прызначаны для адзнакі стану розных органаў і сістэм арганізма. Дыягностыка праводзіцца ўздзеяннем фізічных фактараў (лазер, электра- і КВЧ-пунктура) на кропкі і рэфлекторныя зоны. Спецыяльная праграма маніторынга, створанная па прынцыпе зваротнай сувязі, дазваляе распазнаць раннія прыкметы функцыянальных растройстваў органаў, правесці прафілактычнае лячэнне. Прымяненне "ЛЭДЗІС-2К" асабліва эфектыўна пры лячэнні захворванняў унутраных органаў і перыферыйнай нервовай сістэмы, пагранічных станаў і неўрозаў, — адзначылі ў БДУ. Акрамя таго, яна бяспечна для пацыента і ўрача, простая і зручная, падкрэслілі спецыялісты. Праграмнае забеспячэнне дазваляе стварыць базы дадзеных для пацыентаў, рэкамендацыі па лячэнні хворых з улікам іх індывідуальных асаблівасцей.

## Эстэтычны падыход да літаратуры

Выданне "Гісторыя беларускай літаратуры ХХ стагоддзя" вылучана на саісканне Дзяржаўнай прэміі РБ у галіне навукі і тэхнікі за 2004 год. Аўтары пяцітомнай працы — вучоныя Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі. Варта нагадаць, што першы том выдання выйшаў у 1999 годзе, а пяты, апошні пабачыў свет у канцы 2003 года. "Гісторыя беларускай літаратуры ХХ стагоддзя", па словах вучоных, прадстаўляе сабой энцыклапедычны даведнік, у якім абагульнены ўсе папярэднія даследаванні ў галіне айчыннага літаратуразнаўства і надрукаваныя новыя. Аўтары здолелі вярнуць з небыцця фігуры, чые імёны ў савецкія часы па ідэалагічных прычынах нельга было нават узгадваць. Навіна працы заключаецца ў тым, што даследчыкі ў ёй перайшлі ад сацыялагічнага падыходу ў вывучэнні літаратуры да эстэтычнага.

* * *

Унікальныя інструменты для вырабаў і апрацоўкі маленькіх вырабаў шарападобнай формы стварылі спецыялісты Беларускага нацыянальнага тэхнічнага універсітэта. Круглымі нарыхтоўкі з каменяў і керамікі робяць металічныя дыскі, на паверхні якіх пабудаваны так званыя алмазныя заборшчыкі ў выглядзе конусаў. Па іх баках (пры дапамозе сціснутага паветра) рухаюцца нарыхтоўкі. Знешне працэс нагадвае працу папулярнага атракцыёна "Сюрпрыз" у Цэнтральным дзіцячым парку імя М. Горкага.

Па словах распрацоўшчыкаў, выхад гатовай прадукцыі любых памераў (ад 0,5 да 20 міліметраў) — стопрацэнтны.

Акрамя атрымання пацерак з каштоўных камянёў навінка з поспехам можа выкарыстоўвацца і ў аптычнай прамысловасці, напрыклад, для вырабу мікралінз.

* * *

Мазь новага пакалення для лячэння герпетычных інфекцый вачэй распрацавалі спецыялісты навукова-фармацэўтычнага цэнтра ААГ "Белмедпрэпараты". Ад сродкаў падобнага дзеяння, якія існуюць на сусветным фармацэўтычным рынку, навінка адрозніваецца тым, што здольна знішчыць вірус з набытай устойлівасцю да шырока выкарыстоўваемых ацыклавіру і фосфарнавоцатнай кіслаце. А гэта даволі значная перавага, паколькі прыродная і набытая неўспрымальнасць узбуджальніка да антывірусных прэпаратаў — даволі распаўсюджаная з'ява, якая шкодзіць эфектыўнай тэрапіі.

Прэпарат пад назвай "Мазь цыклацыцідзінманафасфата" праходзіць клінічныя выпрабаванні ў 3-й і 4-й клінічных бальніцах Мінска. І сёлета плануецца наладзіць яго вытворчасць.

* * *

У Беларусі плануецца стварэнне Навукова-тэхнічнага цэнтра "Фізіка і тэхніка для медыцыны". Варта нагадаць, што арганізацыйная праца вядзецца ўжо каля двух гадоў, а неабходнасць такой структуры становіцца больш актуальнай.

Цікавасць практычных урачэй да выкарыстання лазерных тэхналогій дыягностыкі, прафілактыкі лячэння, якія даюць вельмі эфектыўныя вынікі, асабліва ўзрасла ў апошнія гады. Цяжка нават назваць тую вобласць медыцыны, дзе б яны ні выкарыстоўваліся. Сёння на ўзбройванні беларускіх медыкаў унікальны прыбор — універсальны хірургічны лазер, які не мае аналагаў у свеце. Ён кіруецца пры дапамозе голаса і здольны вымяраць рэжым сваёй працы ў вельмі шырокім дыяпазоне. Так, з'явілася магчымасць праводзіць аперацыі на крохкіх, тонкіх па марфалагічнай структуры органах, як пячонка. Пры гэтым выключаюцца ўскладненні, звязаныя з крыватачэннем.

Моцны крок наперад у паспяховым выкарыстанні лазерных тэхналогій зроблены ў анкалогіі. І калі раней яны праходзілі стадыі эксперыменту, дык зараз усё больш шырока выкарыстоўваюцца ў медыцынскай практыцы. Акрамя таго, ствараецца спецыяльны прыбор для лячэння пухлін разнастайнай лакалізацыі.

Шырокае распаўсюджанне знаходзяць такія методыкі выкарыстання нескандэнсіраванага лазернага выпраменьвання для таго, каб павысіць устойлівасць арганізма да розных неспрыяльных уздзеянняў навакольнага асяроддзя. Асабліва перспектыўна выкарыстанне лазернага апраменьвання для аднаўлення крываператтварэння ў хворых, якія перанеслі траўмы галаўнога мозгу, інсульты.

Разам з тым, лазернай тэхнікі ў лячэбных установах не так шмат, як хацелася б, але фізікі і медыкі ў гэтым накірунку прылагаюць вялікія намаганні. Асабліва паспяхова ідзе праца па стварэнні малагабарытных магніталазерных і рознакаляровых лазерных установак, якія выкарыстоўваюцца пры лячэнні апорна-рухаючага апарата. Варта адзначыць, што за апошнія тры гады выпушчана ўжо каля 300 адзінак такой тэхнікі. Аднак каб граматна будаваць далейшую стратэгію выкарыстання лазерных тэхналогій для здароўя чалавека, медыкам і фізікам неабходна працаваць ва ўзаемадзеянні. Гэта патрэбна, каб добра зразумець, якія патрабаванні з медыцынскага пункту гледжання прад'яўляюцца да будучага прыбора або тэхналогіі. У сувязі з гэтым актуальнай становіцца праблема падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі медыцынскіх работнікаў, рашэнне якой таксама здолеў бы ўзяць на сябе будучы цэнтр.

**По матэрыялах Інтэрнета падрыхтавала Марына ЦЯРЭШЧАНКА**

**Фота В. КАВАЛЁВА**

**Старажытныя вераванні дагэтуль выклікаюць нашую цікавасць не проста як у старонніх назіральнікаў, а ўсё з таго, што яны арганічна ўплятаюцца ў наша жыццё ў фальклорных формах. Вядома, старажытныя людзі не мелі дастатковых магчымасцяў навукова растлумачыць прыродныя з'явы, самія сябе. Звёны, якіх не хапала для пабудовы цэласнай карціны свету і асэнсавання сябе, з-за недастатковасці інфармацыі запаўняліся ірацыянальнымі формамі творчасці. Тое, што немагчыма было адолець розумам, схіляла чалавека да міфічнага ўспрымання рэчаіснасці, да ўзнікнення разнастайных вераванняў. Такім чынам, можна меркаваць здымаўся стрэс, выкліканы кантактам з невядомым, непадуладным.**

# Старажытныя ўяўленні пра Дрэва Сусвету

## Не расліна, а сакральны аб'ект

Старажытныя вераванні людзей, звязаныя з уяўленнем пра непарыўную сувязь чалавека з прыродай, са светам духаў, продкаў, пра магчымасць узаемадзеяння са звышнатуральнымі сіламі, увасобіліся ў фальклоры. У казках, песнях, легендах, абярэгах іх дом, гаспадарка, поле, лес, вадаёмы былі населены міфічнымі істотамі. Чэрці, ведзьмы, лесавікі, русалкі, як увасабленне злога, здзяйснялі варожыя да чалавека ўчынкі. Дамавікі, хлеўнікі і інш. мелі дваістую сутнасць: маглі дапамагаць, але і вельмі часта шкодзілі чалавеку.

Вядомая даследчыца фальклору Т.Валодзіна сцвярджае, што "павер'і — гэта той сімвалічны код, праз які чалавек знаходзіць сябе ў Космасе, а Космас у сабе самім". Усё жыццё старажытнага чалавека складалася з прадпісанняў, парушэнне якіх стварала небяспеку для яго і пагражала скажэннем касмічнага парадку. Упарадкаванасць жыцця і дакладнае выкананне правілаў "гарантавала" чалавеку спрыянне боствў, духаў, насельнікаў наваколля, неўмяшанне ў яго жыццё нячыстых сілаў і забяспечвала яму ўстойлівае, надзейнае пачуванне сябе ў Сусвеце.

Да таго, як людзі назапасілі дастатковыя веды ў розных галінах навукі і жыцця і пераканаліся, што свет — гэта планета Сонечнай сістэмы, яны стварылі шматлікія міфы пра пабудову света. Паводле аднаго, найбольш распаўсюджанага з іх, Зямля ўяўлялася як плоская паверхня пад купалам, якая трымаецца на трох чарапахах, якія, ў сваю чаргу, стаяць на кіце і г.д.

Некаторыя міфы дэманструюць найстаражытнейшыя меркаванні людзей пра трох'ярусную пабудову свету, дзе ўверсе — недаступнае неба, унізе — таямнічыя нетры зямлі; але — самае галоўнае — стрыжнем светабудовы з'яўлялася гіганцкае Дрэва, карані якога сыходзяць у ніжні, "той" свет, а галіны — у верхні, у неба. Гэтая першабытная канцэпцыя існавала яшчэ ў палеаліце і дажыла ў фальклоры да нашага часу.

Сусветнае Дрэва — раслінны сімвал, які ўвасабляе ў сабе універсальную карціну свету. Існуюць разнастайныя варыянты Дрэва: дрэва жыцця, дрэва пазнання, шаманскае дрэва і г.д.

Шматлікія малюнкі Дрэва Сусвету знойдзены навукоўцамі ў розных краінах. Але гэта не быў просты малюнак з натуры, таму што ў такім выпадку карані былі б схаваныя пад зямлёй. Гэта відарыс не расліны, а сакральнага аб'екта. Вельмі важнымі часткамі гэтага вобраза з'яўляюцца крона і карані. Выява свяшчэннага дрэва з гэтымі элементамі існавала і ў Кітаі, дзе іерогліфу дрэва адпавядаў знак у выглядзе кірылічнай літары Ж, верхняя і ніжняя часткі якой падобныя на крону і карані.

Малюнкі свяшчэннага Дрэва сустракаюцца і ў дакалумбавай Амерыцы. На некаторых з іх бачна, як чалавек узбіраецца па ствале незвычайнага дрэва наверх. Перамяшчэнне па дрэве з верхняга свету ў ніжні і наадварот складаюць аснову шматлікіх паданняў і казак.

Узгадайма, ёсць славянскія казкі, дзе герой таксама падымаецца па дрэве на неба. Уяўленне пра тое, что на неба можна дабрацца па дрэве ці па лесвіцы, існавала яшчэ ў хетаў. Відаць, у зніклых старажытных міфах быў распаўсюджаны сюжэт узнясення на неба шляхам карaскання па дрэве. Вобраз чалавека, які ўздымаецца ў неба па лесвіцы, рэалізаваўся ў знакамітай казцы пра неўтаймаванага фантазёра Мюнхаўзена, у казках пра боб, які дарос да неба і інш.



## Птушкі з найсветлага месца

Часта на старажытных малюнках кампазіцыя дрэва складаецца з вертыкальнага ствала і прылеглых да яго шасці дугападобных галінаў (правобраз іудзейскага сямісвечніка?). Галінкі дрэва часта малявалі з пладамі-яблыкамі ці агеньчыкамі. Вельмі верагодна, што адсюль паўстаў сучасны звычай запальваць агні на калядныя ялінцы.

Верхавінай сваёй дрэва сыходзіць у неба, прадстаўнікамі якога, па старажытных паданнях, з'яўляюцца птушкі. Існуюць уяўленні, што ў вышэйшы, светлы, добры свет адлятаюць душы памерлых у выглядзе тых крылатых істот, альбо птаства зносіць туды душы. Птушка, па славянскіх вераваннях, да таго ж магла прыносіць у рэальны свет новую душу — дзіцёнка, які толькі што нарадзіўся. Верхні, нябесны свет людзі ўспрымалі як месца знаходжання найчысцейшых, светлых, напоўненых святасці, сіл.

Па гарызанталі Дрэва Сусвету мадэлюе прастору, якая арыентавана па баках свету. Адпаведна ў розных мадэлях прысутнічаюць пяць дрэваў: адно ў цэнтры і чатыры па галоўных кірунках, або дрэва атачаюць чатыры жывёлы, чатыры боствы і г.д. Малюнак Дрэва сіметрычны — тут увасабляецца фундаментальны прынцып суіснавання антыподаў: святла і цемры, дабра і зла, жыцця і смерці. На Дрэве і вакол яго здзяйсняюцца вельмі важныя падзеі: на ім жывуць душы ці сам бог. Паводле паданняў, Пярун, галоўны беларускі божыч — павяліцель грому, маланкі, дажджу, мае дачыненне да нейкага дуба, які стаіць на гары. Пярун расколвае дуб сваёю маланкай, бо ў дупле дрэва ў час навальніцы хаваецца чорт...

Дрэва Сусвету нібы падзяляецца на зоны існавання чалавека і іншых істот: птушкі жывуць у галінах, ля ствала — чалавек і капытныя жывёлы: алені, коні, а змеі, краты, чэрві, насякомыя і г.д. абітаюць між каранямі, якія сыходзяць у невядомыя глыбіні. Галіны дрэва ў асацыяцыях людзей звязваліся з сонцам, агнём, нябёсамі, вясною, летам, усімі светлымі і яркімі танамі, чысцінёю, а карэнне — з падземным, "тым", іншым светам, з замагіллем, пазалюстровай прасторaю, валадарствам цемры, ночы, холаду; адпаведна злыя сілы — з брудам, нечыстотамі, брыдкімі гукамі і пахамі.

Увогуле, усе месцы, блізкія да зямлі, "таго" свету, — балоты, ямы, рвы, сутарэнні "насяляюся" варожымі і цёмнымі істотамі (пякельнік, кладнік, ох, жыж, чорт, праха). Жыццё ў замагільным свеце магло паўтараць наземнае жыццё, але часта ў інверсіі: калі на зямлі дзень — на "тым свеце" ноч, памерлыя ходзяць дагары нагамі і г.д. Адсюль ідзя перавернутасці (дзеянні наадварот, апрананне не па правілах і інш.), што часта гучыць у павер'ях, як спосаб лучнасці з іншым светам, да якога ў пэўныя моманты звяртаюцца па дапамогу.

Так, у казках і паданнях часта сустракаюцца дзеянні перавернутымі прадметамі, дзеянні "наадварот" (язда, хадзьба задам наперад), паводзіны, не прынятыя ў грамадстве (агаленне, язда вярхом на качарзе), выкарыстанне левай рукі, дзеянні ноччу, у цёмны час. Героі казак праз адтуліны трапляюць у нейкае падзямелле, дзе ўсе жывуць па іншых законах. Нават прыдуманая казка Л. Кэрала "Аліса ў Залюстрэччы" ўключае пералічаныя вышэй моманты: траплянне гераіні ў іншы свет ці іншае вымярэнне, дзіўныя персанажы, якія яе атачаюць, зменены правілы паводзінаў...

Падземны свет, прыстанак, умясціліцча ўсяго злога, "нячыстай" сілы быў, па старажытных вераваннях, яшчэ і валадарствам мёртвых, якія мелі велізарны ўплыў на жыццё жывых і якіх прадпісвалася задобрываць, ушаноўваць, і, галоўнае, памятаць дзеля захавання роду. Існавалі вераванні ў замагільнае жыццё, у тое, што памерлыя валодалі надзвычайнай сілай і маглі ўплываць станоўчым ці адмоўным чынам на паўсядзённае жыццё людзей. Таму клопаты пра памерлага, неабходнасць забяспечыць яго "на тым свеце" патрэбнымі атрыбутамі спалучаліся з неабходнасцю зрабіць усё магчымае, каб засцерагчы сябе ад неспрыяльнага ўздзеяння продкаў.

Усё кепскае, што здаралася на зямлі, тлумачылася ўплывам сілаў зла. У пэўныя моманты (уначы, адмысловыя каляндарныя даты : Каляды, Купалле і інш.) адбываецца актывізацыя "таго" свету. Яго насельнікі бесперашкодна трапляюць у свет жывых, каб здзяйсняць сваю нядобрую місію (нябожчыкі, чэрці, мерцвякі і іншыя прадстаўнікі нячыстай сілы).

Дуалізм нябеснага свету багоў і ніжняга свету духаў паслужыў асновай для пазнейшых уяўленняў пра вырай і пекла ў хрысціянскай, мусульманскай, іранскай, індуісцкай міфалогіях, звязаных з ідэяй загробнай платы за зямныя ўчынкі і, у прыватнасці, Страшнага суда. У пекле валадарыць крамешная цемра, і нават пякельны агонь не дае святла...

## Інтуіцыя і навука — разам

Ствалом міфічнага дрэва з'яўляўся рэальны свет — тое, што людзі бачылі вакол сябе. Усё рэальнае, наземнае, побытавае ўвасаблялася ў вобразе ствала.

Сваю хату чалавек асэнсоўваў як частку Сусвету: тут існаваў ягоны род, тут з'яўляліся дзеці і адыходзілі ў "той" свет старыя. Таму ўласны дом асэнсоўваўся як паменшаная мадэль Дрэва Сусвету. Падмурак хаты, падлога, падпечак, склеп, сутарэнні асэнсоўваліся старажытным беларусам як ніжні, падзямельны, "той" свет, а дах, абразы, вышкі, гарышча, дымаход — як верх, нябёсы, галіны Дрэва. Вертыкаль: падлога-дах у прадстаўленні сялян была ідэнтычнаю вертыкалі свяшчэннага Дрэва. Гарызанталлю жытла выступае звязка кут: печ, якая адным канцом (чырвоны кут) паказвае на святло, усход, божы бок, а другім (печ) — на захад, цемру.

Згодна са старажытнымі вераваннямі, у свядомасці нашых далёкіх продкаў кожнае жытло надавала свету прасторавы сэнс, ахоўвала чалавека ад варожага асяроддзя. У доме неадрыўна суіснавалі чалавек і Сусвет, мікра- і макракосмас.

Такім чынам, у Дрэве Сусвету ўвасаблялася цэласная сістэма старажытных вераванняў чалавека, створаная на міфалагічнай аснове.

Міфалагічнае, ірэальнае бачанне свету характэрна не толькі для культуры нашых продкаў, але яно накладаецца і на нашае светаадчуванне. Міфы, казкі, паданні, вераванні жывуць у нас і ўплываюць на фармаванне жыццёвых установак, ідэалаў, маралі, вызначаюць нашы ўчынкі, дзейнасць. Навуковы спосаб мыслення і дагэтуль не дазваляе стварыць бездакорную цэласную карціну свету. Таму ў наш час на дапамогу навуцы зноў прыходзіць вобразнае, інтуітыўнае мысленне, і толькі разам інтуіцыя і навука здолеюць вывесці чалавецтва на новы віток развіцця.

**Вольга ЦЯЦЁРКІНА**

# «...Распяты лёсам на крыжы...»

Анатоль Станкевіч быў творцам у трох вымярэннях: у працы — ён адметнейшы чырванадрэўшчык; у мастацтве — таленавіты майстар лясных скульптур і непаўторных карцін на дрэве; у паэзіі — таксама мае свой выразны, самабытны голас. Паэтычная спадчына паэта складаецца з двух калектыўных паэтычных зборнікаў «Добрыми глазами» (1983) і «Годы как реки» (1988) і з шматлікіх асобных вершаў, якія жамчужынамі зіхацяць у шмат якіх часопісах, газетах і кнігах. Пры жыцці Анатоль Станкевіч паспеў пабачыць толькі адзіны свой уласны зборнік вершаў «На крыльях страдающей совести» (1996).

У зборніку вершаў «Паўлюк Багрым», які быў выдадзены ў 1994 годзе, былі надрукаваны вершы шмат якіх паэтаў, а таксама верш знанага Максіма Танка пра сялянскага паэта-майстра з Крашына:

*І будзе песні зноў складаць*
*І клікаць волю здабываць...*
*У кузні крашынскай — гром, дым,*
*Вы чуеце? Куе Багрым!*

У гэтым жа зборніку вершаў знайшлося месца і баранавіцкаму паэту Анатолю Станкевічу, верш якога не згубіўся, а, наадварот, выйграў сваёй незвычайнай кароткасцю, удумнасцю і філасафічнасцю:

*Паданнямі пройдуць вякі,*
*І памяць не згіне ніколі.*
*Праз тысячу год жаўрукі*
*Спяваць будуць на жырандолі.*

Максім Танк упершыню, прачытаўшы творы рабочага з Баранавічаў, быў так узрушаны імі, што сам звярнуўся ў часопіс «Нёман» з прапановаю надрукаваць вершы Анатоля Станкевіча.

Анатоль Станкевіч нарадзіўся 2 сакавіка 1937 года ў вёсцы Жарабковічы Ляхавіцкага раёна. У сялянскай сям'і Івана Восіпавіча і Веры Іванаўны Станкевічаў з'явілася немаўля, якому далі імя Анатоль. Але жыццё паэта складвалася не надта шчасліва, бо вельмі хутка памерла маці, надарваўшыся на гаспадарцы пры акупантах, паляках.

*Мой лёс мяне моцна пакрыўдзіў:*
*Мая маці не спявала ў дзяцінстве*
*Мне песні на роднай мове,*
*Бо вельмі рана памерла ...*

А ўслед за маці ў 1942 годзе, ўжо пры акупантах, немцах, загінуў і бацька. Цяжкі сірочы хлеб, аднак свет не без шчырых людзей. З ласкі мачахі Хрысціны і старэйшых сясцёр Анатоль скончыў сямігодку ў Жарабковічах і паступіў вучыцца ў Слонімскае рамеснае вучылішча № 5. Тутака панавалі надзвычай жорсткія адносіны паміж навучэнцамі, ад якіх вельмі пакутаваў маленькі Анатоль. Сістэматычнае недаяданне, холад ды здзекі старэйшых адбіліся на здароўі хлопчыка. Кіраўніцтва рамеснага вучылішча накіроўвае падлетка на лячэнне аж у Падмаскоўе. Падлячыўшыся, Анатоль Станкевіч здужаў скончыць вучылішча і атрымаў спецыяльнасць чырванадрэўшчыка.

Ці ёсць хоць нейкая літасць у прадстаўнікоў улады да сіраты? Няма. Маладога юнака-сірату, каб дабіць, скалечыць ці зрабіць крымінальнікам, адрываюць ад роднай зямелькі і накіроўваюць у далёкую Архангельскую вобласць на лесапільны завод станцыі Пярмінава. Але братка-беларус не зламаўся і не ператварыўся ў маргінала, а стаў больш мужным і дужым. Яшчэ больш загартаваўся малады чалавек у войску, і пасля дэмабілізацыі сяржант Анатоль Станкевіч вярнуўся на родную баранавіцкую зямельку ў 1959 годзе. Тутака ён і стаў адным з адметнейшых грамадзянаў нашага слаўнага места. Трэба сказаць аб яго дзівосным майстэрстве — гэта лясных скульптурах і драўляных карцінах. Выстаўкі працы яго рук — былі адметнымі з'явамі ў культурніцкім жыцці нашага горада. За свой самабытны талент у стварэнні лясных скульптур, мініяцюр, карцін Анатоль Іванавіч мае шмат узнагарод, у тым ліку і Міністэрства культуры. Творы яго таленавітых рук і творчай фантазіі ўзбагачаюць і ўквечваюць школы, бібліятэкі, установы і прадпрыемствы нашага горада і ўласныя кватэры людзей. Гэтыя свае шэдэўры з прыроднага матэрыялу майстар падараваў людзям яшчэ пры сваім жыцці.

У Баранавічах Анатоль Станкевіч зразумеў, што трэба вучыцца, каб узняцца на паэтычны Алімп. Спачатку ён займаецца самаадукацыяй, затым паспяхова скончыў вячэрнюю сярэднюю школу і універсітэт райселькораў пры гарадской газеце «Знамя коммунизма». Тут ён і друкуе 15 траўня 1968 года свой першы верш «Вясенняя замалёўка», а ўжо праз 4 гады ўзначальвае Баранавіцкае літаратурнае аб'яднанне «Плынь», якое было адзіным творчым таварыствам у горадзе. Потым з яго ініцыятывы на ўрадлівай баранавіцкай зямлі паўстануць творчыя аб'яднанні «Ліра», «Жнівень». Апошнім ён кіраваў да самага свайго трагічнага скону ў 1999 годзе.

Крываточыць душа паэта і абуджае нас, трывожыць, прымушае зазірнуць у паўсядзённыя праблемы, якія побач з намі:

*Калі я прачытаў аб'яву:*
*«Прадаецца сабака...»*
*Я здзівіўся. Які прыгожы почырк*
*У гэтага чалавека!*
*Як ён, не спяшаючы,*
*выводзіў кожную літару*
*здрады...*

Альбо заўвага паэта «У бібліятэцы»:

*Перабіраючы паэтаў розных,*
*Спытаў: «Ясеніна часамі не здавалі?»*
*Бібліятэкарка ўскіпела грозна:*
*«Апошні том учора ўкралі!*
*Другія кніжкі, быццам недаацэнены*
*Ляжаць, вось бачыце, спакойна,*
*абы-дзе...»*
*Тады я адказаў радком Ясеніна:*
*«Кабылу дрэнную і злодзей*
*не крадзе!»*

У сённяшнюю пару, калі няма шаноўнага Анатоля Іванавіча, мы перачытваем гэтыя словы і, як у тыя гады, гатовы таксама падпісацца пад кожным з іх. Творца заўсёды ідзе наперадзе сваіх сучаснікаў. Вось невялікі верш Станкевіча, які пацвярджае жыццёвую высnову:

*Помнікі, помнікі, помнікі*
*З бетону, мармуру, граніту.*
*Без памяці сэрца*
*Яны халодныя камяні.*

Адзначаючы непаўторнасць паэзіі Анатоля Станкевіча, С. Райкіна ў газеце «Знамя юности» пад загалоўкам «И след в душе оставит лира» 2 верасня 1983 года пісала: «У вершах А. Станкевіча адчуваецца жывы, паступова б'ючы імпульс душы. Паэт, нібы першаадкрывальнік, вядзе чытача за сабой, прымушаючы яго зазірнуць на прамільгнуўшыя, звычайныя рэчы і з'явы па-новаму.

На добры зборнік лірыкі сабралася вершаў у Анатоля Станкевіча. Яму паабяцалі надрукаваць кніжку, але ў 1983 годзе пабачыў свет калектыўны зборнік «Добрыми глазами».

Паэту ж надта хацелася выдаць асабістую кнігу. У «Мастацкай літаратуры» «абрадаваліся» ягонай пухлай папцы і заверылі, што ўсё будзе добра. Але ж зноў трапіў у брацкую магілу, праўда, пад іншай назвай «Годы как реки» (1988). У гэтым выданні ягоны сшытак атрымаў загаловак «Верю в трудное счастье».

У 1972 годзе пісьменнік і крытык Ул. Калеснік, пазнаёміўшыся ў Берасці з нізкай вершаў А. Станкевіча, назваў іх высокапрафесійнымі, асабліва тады ён адзначыў гэты твор:

*Еще перед войной*
*В наш дом постучала женщина*
*в белом*
*И позвала мать на улицу.*
*Мать хотела взять меня на руки,*
*Но страшная женщина*
*Показала на меня дубовой клюкой*
*И грозно сказала:*
*«Этот испытает все*
*ужасы судьбы!..*
*Выживет —*
*Будет поэтом»*
*Мать вышла и показала дорогу*
*к старому Кивелю...*
*Через три года, когда*
*Она пришла за отцом —*
*Я понял: женщина в белом*
*Назад никого не приводит.*

Гэты верш Анатоль Станкевіч доўга трымаў пры сабе, не меў сілы аддаць на суд чытачоў.

Кажуць, калі вершы паэта змяшчаюцца ў анталагічных зборніках, дык гэта ўжо пэўны акт яго паэтычнага прызвання. У адной з беларускіх анталогій, што пабачыла свет, маецца аж 8 вершаў Анатоля Станкевіча. Безумоўна — Паэт. Шкада, што лёс так трагічна распарадзіўся яго жыццём...

**Міхась МАЛІНОЎСКІ**

# Літаратурныя галасы Гарадзеншчыны

Рэгіянальная літаратура... Ці існуе ўвогуле такое паняцце, тэрмін? Ці правамерна менавіта так дзяліць аўтараў? Безумоўна, сталічны "мегаполіс" з яго развітай інфраструктурай, выдавецтвамі і рэдакцыямі прыцягвае і... зацягвае многіх. Аднак на цяперашні час існуюць (пры наяўнасці пэўных сродкаў) магчымасці выдавацца ў абласных і іншых друкарнях. У кожным рэгіёне апошнімі гадамі сталі выходзіць як аўтарскія, так і калектыўныя кнігі. "Галасы 2004" — зборнік гарадзенскіх пісьменнікаў. Тры гады таму такім жа летнім часам з'явіліся дэбютныя "Галасы". Тады ўкладальнікі са смеласцю і надзеяй планавалі выдаваць кнігі штогод, распачаўшы серыю "Бібліятэка газеты "Гродзенская праўда". І як ні хацелася ў гэта верыць, усё ж фінансава складаны час, бяздушна-разліковыя абставіны жыцця вымагалі фатальнай аб'ектыўнасці: для некамерцыйнага праекта практычна няма магчымасці пастаянна прабівацца праз усе гэтыя перашкоды. Кожны, хто так ці інакш калі-небудзь меў дачыненне да выдавецкай дзейнасці, ведае наколькі складана вывесці ў свет КНІГУ. Гродзенцы зноў здолелі гэта даказаць. Застаецца спадзявацца, што іх творчага гарэння і практычнай учэпістасці хопіць і надалей.

Трэція "Галасы" з'явіліся на свет у знакаміты час, што і адзначае ў прадмове рэдактар І.Багіна, — шасцідзесяціпяцігадовы юбілей абласной газеты "Гродзенская праўда". І тым больш знамянальна, што гэта асаблівы год для ўсёй нашай краіны, калі беларусы адзначаюць свята вызвалення роднай краіны. Таму вельмі арганічна ў зборніку выглядаюць творы на ваенную тэматыку. Гэта і вершы, і проза. Трэба сказаць, што пішуць пра вайну не толькі ўдзельнікі і сведкі, але таксама і тыя, чые бацькі і дзяды перажылі гэтую страшную навалу. У творах гучыць павага і падзяка героям тых векапомных дзён. Вось такая па-свойму знакавая кніга прадстаўляе разнастайныя творы больш сотні аўтараў.




Адразу трэба адзначыць, што галасоўцы — гэта людзі самых розных прафесій і заняткаў, усіх узростаў і практычна з усіх раёнаў Гродзенскай вобласці. Кожная з кніг "Галасоў" пачынаецца раздзелам "Упершыню". Менавіта гэтыя творы і імёны, і іх пастаяннае абнаўленне выклікае прыемную ўпэўненасць у нязводнасці чалавечага імкнення да прыгажосці мастацкага слова. Паказальна тое, што ад зборніка да зборніка дэбютныя імёны (не ўсе, канечне) пераходзяць у наступныя раздзелы, займаюць сваё месца сярод вядомых ужо аўтараў. Таксама трэба адзначыць, што многія галасоўцы пашыраюць свой мастацка-творчы дыяпазон, спрабуюць сілы ў розных жанрах і нават родах літаратуры: лірычны маналог і паэма, паэзія і проза. Варта сказаць і пра білінгвальнасць некаторых аўтараў, што само па сабе ілюструе шматбаковасць светаадчування. У гэтай сувязі неабходна згадаць, што ўсё ж па вялікім рахунку пісьменнік, асабліва паэт, можа пісаць толькі на адной мове. Тым большае значэнне набывае для кожнага канкрэтнага аўтара гэты перыяд станаўлення і ўласнага выпрабавання "апублікаванасцю".

Вельмі сімпатычнымі ўяўляюцца вершы шасцікласніцы (!) Насці Місюкевіч. Без вялікага перабольшвання можна сцвярджаць, што "творыкі" Насці маглі б годна ўпісацца ў любую дзіцячую чытанку.

Трэція "Галасы" маюць яшчэ адну вызначальную прыкмету: у іх змешчаны фотаматэрыялы, якія прэзентуюць і літаратурную гісторыю Гродзеншчыны, і сучасных аўтараў. У такім выпадку было б вельмі заканамерным прачытаць пэўныя звесткі пра саміх галасоўцаў. Гэта магло быць вырашана па-рознаму; размясціцца непасрэдна з творамі ці ў алфавітным парадку ў канцы кнігі. Нягледзячы на такую вялікую (100) колькасць аўтараў, пры лаканічнасці і ёмістасці матэрыял заняў бы не шмат месца ў кнізе.

Горад, з яго універсальнымі інфармацыйна-камунікатыўнымі магчымасцямі дазваляе і абумоўлівае як інтэлектуальнае, так і духоўнае развіццё асобы, бо гэта найперш культурны цэнтр цывілізацыі, месца, дзе сканцэнтраваны і максімальна адкрыты для ўспрымання найвышэйшыя здабыткі чалавечага розуму і духу. Адукаваны (але неабавязкова прафесійны) пісьменнік ніколі не будзе стылізаваць сваю паэзію пад псеўданародную прастату. Тут варта звярнуць увагу на адну праблему, якую даследчыкі ўжо некалькі дзесяцігоддзяў таму акрэслілі як "кананізацыя і дэкананізацыя літаратуры". Сутнасць у тым, што "кананізаваныя", г.зн. апрабаваныя, стаўшыя класічнымі, звыклыя мастацкія сродкі і прыёмы ў свой час становяцца сапраўднымі перашкодамі для творчага росту і развіцця пісьменніка. Таму кожны аўтар — і майстар, і пачатковец — павінен шукаць новыя рашэнні, разбураць звыклыя ўяўленні. Кожны з класікаў і кожны з прызнаных сучаснікаў ішлі менавіта па гэтым няпростым, але ўсё ж адзіным плённым шляху ў творчасці. Кожны з раздзелаў штогодніка паказвае, што многія аўтары гэта выразна ўсведамляюць, і іх мастацтва, абапіраючыся на інтуіцыю, талент, вопыт і інш., прэтэндуе на арыгінальнасць і пэўную каштоўнасць. Мастацкае пранікненне ў свет сучасніка, земляка вызначаецца ў гарадзенскіх пісьменнікаў імкненнем да з'яднання філасофскіх абагульненняў і душэўнай адкрытасці, тэндэнцыяй да злучэння адвечна-нязменнага і штодзённа імгненнага, гістарычнага вопыту і найсучаснейшых тэорый. Аднак, нярэдка мастацкія творы набываюць занудны ментарскі тон, аўтар са строгасцю аскета і ўпэўненасцю святара пачынае даводзіць прапісныя ісціны ці вучыць маралі.

Некаторыя сферы псіха-эмацыянальнага жыцця індывідуума не паддаюцца прамому рацыянальнаму вызначэнню. І тут ізноў толькі прырода ў стане больш-менш дакладна выявіць праз мастацкія вобразы многія зрухі душы. Якасны ўзровень пейзажнага мастацтва і майстэрства — гэта па сутнасці сапраўдны эстэтычны крытэрый ацэнкі аўтара. Пейзажныя вобразы з'яўляюцца часткай духоўнай сферы існавання і складаюць першааснову мастацкага светабачання. Даследчыкі зазначаюць, што ў беларускім пейзажным светаадлюстраванні канкрэтнае, прыродна-зямное зітавана з абстрактным, асацыятыўным планам выяўлення. Пейзаж нярэдка можа станавіцца сродкам філасофскага тлумачэння сутнасці чалавека і быцця. Прыродны малюнак, пададзены ў філасофскім ракурсе, набывае ідэйна-сэнсавую заглыбленасць, канцэптуальнасць. Інакш чытанне запар многіх пейзажных вершаў з "Галасоў" вельмі нагадвае павольную вандроўку па гарадзенскай вуліцы, дзе самадзейныя мастакі выстаўляюць свае работы. Адразу пазнаеш заштампаваныя псеўдародныя краявіды "сярэдняй паласы".

Сучасны аўтар ніколі не павінен задавальняцца пасіўным сузіраннем, для яго абавязковым з'яўляецца роздум, аналітычнае выяўленне дыялектычнай сувязі прыватнага з агульным. Супярэчнасць навакольнага свету выклікае ў творчага чалавека пастаянную рэфлексію. Выратаванне ці схованку можна шукаць у розным, аднак менавіта мастацкая творчасць стала для чалавека і сродкам пазнання і сродкам выратавання. Для абсалютнай большасці тых, чые галасы прагучалі ў гэтай кнізе, літаратурная дзейнасць не з'яўляецца ні рамяством, ні адпачынкам ці забаўкай, ні абавязкам, хоць высокае мастацтва так ці інакш уключае ў сябе гэтыя і ўсе іншыя паняцці з чалавечага жыцця. Думаецца, што галоўнай якасцю і каштоўнасцю "Галасоў" сталі іх шчырасць, праўдзівасць у выяўленні думак і перажыванняў нашага сучасніка і земляка — мужчыны ці жанчыны, маладога ці сталага чалавека, з якім сустракаемся на вуліцы, працуем у адным калектыве, жывём на старажытнай беларускай зямлі.

Усім згаданым паэзія і проза Прынямоння арганічна ўпісваецца ў сучасны літаратурны працэс, сцвярджаючы тым самым значнасць і неабходнасць існавання рэгіянальнай літаратуры.

**Анатоль РАМАНЧУК**

# “Песня пра зубра” — помнік элітарнай культуры Беларусі




Параўнаўча нядаўна паняцце “лацінамоўная пісьмовая культура Беларусі” ўвайшло ў скарбніцу нашых уяўленняў пра даўнюю гісторыю Айчыны. Іншамоўнасць літаратуры не заўсёды атаясамлівалася з нацыянальным, нацыянальнае разглядалася праз прызму бачання дэмаса. Між тым элітарная культура, элітарная літаратура — не толькі складаючыя часткі культуры нацыянальнай, яны — яе рухавікі, этычна-эстэтычныя меры духоўных каштоўнасцей. Элітарная культура не ў меншай ступені, чым культура дэмаса заўсёды вызначала і вызначае рэпрэзентатыўнасць нацыянальнай культуры, яна — найбольш мабільная ў засваенні агульначалавечых каштоўнасцей, менавіта ў яе рамках адбываюцца змены і рух жанрава-стылёвых сістэм, эпахальныя пераацэнкі каштоўнасцей.

Складанасць культурнай сітуацыі Беларусі на розных этапах яе развіцця — у тым, што практычна ніколі не ставіліся рубам і кардынальна не вырашаліся праблемы адзінай веры, адзінай мовы, і ў сувязі з гэтым не вызначаліся прыярытэты культурных арыенціраў. Усход і Захад як найперш культурна-верапаведныя феномены не раз карэнным чынам мянялі беларускую ментальнасць.

Элітарная культура народаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы на рубяжы XV — XVI стагоддзяў падвяргаецца так званай лацінізацыі. Лацінская мова і літаратура на ёй становяцца ў гэты час неад’емнымі часткамі і беларускай культуры. Сістэму парадыгм складаюць найперш творы, адрасаваныя сучаснікам, для якіх і мова, і ўвасобленая на ёй тэматыка адпавядаюць іх эстэтычным густам і запаўняюць культурна-сузіральную лакуну. І Ян Вісліцкі, і Мікалай Гусоўскі, і Ян Радван — прадуцэнты менавіта такога кшталту. Для іх антычнасць — гэта айчынная мінуўшчына ў яе фарбах і вобразах, функцыянальны набор якіх апраменьваецца сімвалікаалегарычнай падсветкай з арсенала культуры антычнай Грэцыі і Рыма. Такім чынам, беларуская літаратура XV—XVI стагоддзяў на лацінскай мове, калі разглядаць яе, як сістэму закрытую, недаступную для плебса, адрадзіла “мёртвую” мову і сімволіка-вобразны пантэон антычнасці. З другога боку, гэтая літаратура, калі разглядаць яе як сістэму адкрытую, арыентаваную на чытача-інтэлектуала, напоўніла творы на лацінскай мове і народнаснымі эстэтычнымі каштоўнасцямі ў выглядзе нацыянальна маркіраваных вобразаў, адпаведных гістарычных падзей, ментальна-ацэначных катэгорый. Лацінская мова ў беларускай літаратуры выконвала функцыю мовы навукова-філасофскай і гістарычнай думкі, яна з’яўлялася арганізуючым пачаткам секулярызаванай літаратуры ў пераважна хрысціянскай літаратуры ўсходніх славян. Усходнеславянскі адрасат упершыню змог спасцігнуць мінулае і сучаснае праз прызму мастацкага іх бачання. Кнігі, ачоленыя патранатам каранаваных асоб ці магнацкіх іхмосцяў, фактычна пазбаўляліся якой-небудзь царкоўнай ці касцельнай цэнзуры. Гуманістычныя ж прыярытэты ўжо самі па сабе прадугледжвалі асветніцкую функцыю падобнага роду літаратуры. Гуманістычна-асветніцкае самаўсведамленне лацінамоўных паэтаў вяло да нейтралізацыі комплексу другаснасці; “калектыўны аўтар” з мастацкай устаноўкай на самапрыніжэнне саступаў месца творчай асобе, чалавеку Сусвету, азначанаму арэолам чалавечай годнасці. Мікалай Гусоўскі, звяртаючыся да сучасных яму невукаў-нядобразычліўцаў (нацыянальны адрасат не канкрэтызаваны), заўважаў у “Песні пра зубра”:

*Невукі ж хай не грызуць*
*мае чужынскія вершы,*
*Востра адточаны*
*мной стрэлы, якімі пішу;*
*Джалы з ядам такім,*
*што нават любому ваяку*
*Драпіны досыць —*
*і ён ляжа адразу навек.*

Яшчэ больш яскрава феномен аўтарскай годнасці адлюстраваны ў прысвячэнні-звароце да каралевы Боны. Указваючы на смерць папы Льва X як на прычыну незапатрабаванасці паэмы, Гусоўскі заўважае: “Аднак застаўся маленькі твор, створаны мною тады адпаведна таленту і недахопу часу...”. У перакладзе ж Віктара Дарашкевіча гэты пасаж гучыць наступным чынам: “Застаецца толькі невялікі твор, напісаны тады мною спехам (мне не ставала ні часу, ні здольнасці)...”. Падобнае прачытанне гэтага ўрыўка ў першую чаргу польскімі даследчыкамі рубяжа XIX—XX стагоддзяў прывяло да таго, што аўтара “Песні пра зубра” пачалі класіфікаваць як паэта-недавучку, які не мае пэўнасці ў сваіх паэтычных здольнасцях і з гэтай прычыны быццам бы трымціць перад адукаваным інтэлектуалам Заходняй Еўропы. Відавочна, што сэнс выказвання Гусоўскага прама супрацьлеглы: паэт просіць каралеву звярнуць увагу на тое, што пры недахопе часу яго таленту хапіла для стварэння падобнага шэдэўра, які па сваіх пазнавальных вартасцях можа быць вышэйшым за трактаты Плінія і Паўла Дыякана. Адкуль жа ўзяліся неадпаведныя сутнасці выказвання інтэрпрэтацыі-характарыстыкі Мікалая Гусоўскага? Хутчэй за ўсё, да яго падыходзілі, як да пісьменніка эпохі сярэднявечча, для якога характэрна была этыкетна завуаляваная прыніжанасць. Ні пра якую самапрыніжанасць аўтара не можа быць і гаворкі. Ён і яго творчасць — прадукт усвядомленага гуманістычнага сябебачання.

Ці ж была ўсё-такі Бона Сфорца фундатаркай гэтага выдання? Адназначнага адказу нельга даць, аднак, хутчэй за ўсё, — НЕ. Звычайна ў прадмовах, прысвячэннях паэты, пісьменнікі, выдаўцы выказвалі падзяку мецэнатам, як, скажам, Сымон Будны — Яўстафію Валовічу. Тут гэтага няма; перад намі — своеасаблівы прэвентыўны тып прадмовы-прысвячэння. З паэтычнага звароту да каралеўскага сакратара Людовіка Альфіо відаць, што паэма была прадстаўлена на так званы этычны суд каралеўскага сакратара. І адразу ж паэт заўважае:

*А на выпадак,*
*калі ў ёй нічога не ўгледзіш,*
*Што далікатнейшы слых*
*Каралевы магло б улагодзіць,*
*Хай яна сыдзе за сціплы*
*табе мой дарунак.*

Чаму Мікалай Гусоўскі хоча бачыць сваёй мецэнаткай менавіта каралеву Бону? Ужо ў часы аўтара “Песні пра зубра” яна была вядомая як прыхільніца цэнтралізацыі ўлады (асабліва зямельнай) у руках манарха. Шмат якіх беларускіх зямель яна далучыла да ўладанняў каралеўскай дынастыі. Ці ж гэта цікавіла Мікалая Гусоўскага? Адказ дае ён сам: “Але я сапраўды не ўяўляю, чым ты можаш яму (каралеўству. — **У. К.**) дзейсна дапамагчы, акрамя як...”. У чым жа гуманістычны пафас прамовы паэта-наваланіста? Спакой у дзяржаве і слава нашчадкаў грунтуюцца перш за ўсё на іх дзяяннях, увекавечаных у пісьмовых крыніцах, у творах знакамітых паэтаў, мастакоў, у звонкай ліры вялікіх талентаў. Вялікія князі Вялікага княства Літоўскага і каралі Польскай Кароны, як правіла, не аказвалі мецэнацкай падтрымкі таленавітым беларусам. Іншае — Сфорцы. Яна, каралева Бона, — “сям’і з арагонскага дома”, прадстаўнікі якой “не паказалі б сябе ў такім дзівосным святле ў розных выпрабаваннях лёсу перад нашчадкамі, калі б іх уласная вучонасць і ўласцівая гэтаму роду асаблівая прыхільнасць да вучоных мужоў не ўзнеслі б іх на такую вышыню, што яны былі ўслаўлены звонкай лірай вялікіх талентаў”. Такім чынам тое, што было для мецэнатаў-італьянцаў блізкім, знаёмым, часткай іх зямнога жыцця, у нас, на Беларусі, бачылася ў перспектыве.

І, нарэшце, звярну сваю ўвагу яшчэ на адзін феномен творчай лабараторыі Мікалая Гусоўскага — яго адносіны да міфалагем: да язычніцкіх і да хрысціянскіх. Для артадаксальнага хрысціяніна-католіка хрысціянства — гісторыя, тут няма і намёку на міфалагізацыю, гэта рэальныя асобы, годныя пакланення, Боскія сілы, якія ўмешваюцца і кіруюць жыццём чалавека, дзяржавамі і да т.п. Язычніцкія багі зусім іншыя. Для Гусоўскага яны — сімвалы архаічнай культуры, якія нясуць інфармацыю, што значна дапаўняе план зместу паэмы. Напоўненасць вобраза-сімвала не стварае другога плану ці нейкай дыярхіі падзей. Для інтэлектуальнай эліты гэта працяг гісторыі культуры на ўзроўні своеасаблівага вобраза-топаса. Мікалай Гусоўскі заўважае:

*Молімся мы Ісусу Хрысту*
*і ягонаму бацьку,*
*Ў песнях жа нашых часцей*
*правяць Юнона і Зеўс.*

Міфалагемы з арсенала Старажытнай Грэцыі і Рыма дзейнічаюць і жывуць, па-першае, у класава маркіраваным асяроддзі — у атачэнні князя. Пры дапамозе іх ствараюцца адпаведныя ўзвышана-элітарныя ці прыніжана-травестыйныя топасы. Успомнім хаця б травестыйна завостранае пераасэнсаванне вобраза Амура ў апісанні відовішча забойства зубра пры Аляксандры:

*Слухай, Амур! Забаўляйся*
*ўжо там, дзе крой*
*не пральецца!*
*Ў пушчу нашто прыляцеў,*
*ніцы, шкадлівы блазнюк?*
*Што, як надумае хтось*
*дзяўчыне сваёй падабацца?*
*Можа, дурны, праз цябе*
*мігам жыццё загубіць.*

Па-другое, міфалагемы могуць суадносіцца з маркіраваным вобразам, якім у паэме выступае зубр. Гэтая жывёла ў XVI стагоддзі не з’яўлялася ў Еўропе экзатычнай, і паляванне на яго — іншая маркіраваная сітуацыя, чым відовішча, звязанае з карыдай. Паляванне на зубра — адметная, цяжкая праца элітнай часткі грамадства. Пераўтварэнне гэтага палявання ў блюзнерства, небяспечнае відовішча — пагроза для жыцця тых, хто ў жыцці зубра-волата бачыў прадмет для палацавых забаў.

Паўтаруся, зубр — маркіраваная жывёла. Да яго, яго паводзін, адносін да навакольнага асяроддзя, у тым ліку і да чалавека, прымяняецца рыцарскі кодэкс узаемаадносін. Зубр — не бык, не хатняя жывёла, узгадаваная чалавекам, ён — стварэнне прыроды, якую сам жа і вянчае сваёй царскасцю. Вось чаму кардынальным чынам адрозніваецца бачанне зубра Плініем ці Паўлам Дыяканам ад бачання зубра Мікалаем Гусоўскім. Папярэднікі паэта заўважалі найперш знешняе падабенства зубра да быка ці казла. У сістэме каштоўнасцей аўтара “Песні пра зубра” — унутраны падтэкст. Паляванне на зубра ў этыкетна-эстэтычных адносінах — значна вышэйшая ступень элітарнай побытавай культуры, чым відовішчнае забойства быка. У сферы ж палітычнай (я маю на ўвазе стварэнне антытурэцкай кааліцыі) рымскім пантыфікам і рымскай арыстакратыі давалася зразумець, хто на самай справе можа скарыць неўтаймаваных асманаў: ці Рым, які страціў сваю былую магутнасць і знаходзіўся на мяжы страты веры, ці ўсходнеславянскія рыцарыvоіны на чале з каралём, якія зусім нядаўна падалі адпаведны ўрок заходнееўрапейскаму рыцарству на палях Грунвальда.



**Уладзімір КАРОТКІ**


Вольга КОВАЛЬ

Калі скончыцца ноч,
абдыму цябе сонечным ранкам.
Я вядзьмарка твая,
ты не бачыш у гэтым пагрозы;
будзеш лепшым маім і апошнім,
напэўна, каханкам.

Калі скончацца словы,
я буду глядзець табе ў вочы,
толькі ты не хавайся
за тымі сляпымі вачыма.
Наша неба з табою
да нашы кароткія ночы,
будуць доўжыцца вечна,
пакуль гэта будзе магчыма...

* * *

Калі скончацца вершы,
я буду чытаць табе прозу.

* * *

Я з келіха звычайнай адзіноты
са смакам п'ю атручаны напой,
заўжды чырвоны,
кіслы і халодны,
які мяне натхняе
быць чужой.

І слёзы па начах
не супакояць,
я п'ю да дна чароўны
той напой.
Не людзі,
дык анёлы абароняць
Надзею,
сон салодкі і спакой.

* * *

Што я маю?
Зялёныя вочы,
каханне ды трошкі
вар'яцтва,
і нашыя зорныя ночы,
ды спрэчкі на тэму
мастацтва.

Ёсць мары,
шчаслівыя сны,
ёсць вершы
і казкі бабулі,
пачуцці
той дзіўнай вясны,
якую з табой мы адчулі.

Ёсць вера
і мройны мой свет,
а скарбаў ніякіх не маю.
Я трошачкі,
можа, паэт,
таму і цябе
вось кахаю.


Анатоль ВІШНЕЎСКІ

* * *

Птушкі ў вырай восень адносяць,
Забываюць свае нябёсы,
Дні апошнія восені косяць
І кладуцца дні ў пракосы.

Жыць мне трэба, трэба спяшацца.
З рук жыццё вырывае мой час.
Прывітацца і развітацца,
Пакуль промень надзеі не згас.

* * *

Развеяў вецер шэры попел сноў
І зноў жыццё свае дыктуе ўмовы —
Як на зямельку гэту ты прыйшоў,
То і жыві жыццём яе суровым.

І за жыццё трымайся абеуч,
Гадоў вятры часамі,
каб не здзьмулі.
Дарэмна зайздрасцю сябе не муч
І верны будзь Радзіме і матулі.

* * *

Святлее у вачах, і на душы світае,
І зззяе дзень пры свечках залатых,
І ўсё вакол мяне цудоўна ажывае,
І добра тут, у свеце для жывых.

Тут для жывых свет ажыўляе гукі,
І музыка ледзь чутная гучыць...
Нябачныя працягвае мне рукі
Маё жыццё...
каб жыць,
каб жыць,
каб жыць...

* * *

Уже ранак холадам дыхае,
Пена млечная на траве.
Навакколле ціхае-ціхае,
Павуцінка толькі плыве.

Сціхлі птушкі
і дрэвы замёрлі,
Пазяхае затоены сад
І па буйнай смутку волі
У ружовым сне лістапад.

Холад студзіць і рукі, і плечы
У чаканні лютай зімы.
Уздыхаюць цагляныя печы,
І драўляныя
стогнуць дамы.




Слава ЛІПЕНЬ

* * *

Калі бяда,
калі разлад у справах,
І ўсё жыццё пайшло наперакос,
Мы наракаць на лёс
не маем права,
А наракаем усё ж такі на лёс.
Замест таго,
каб згуртаваць ўсе сілы
І не паддацца гору ці бядзе,
Мы скардзімся,
што лёс наш нешчаслівы:
Ніколі не шанцуе і нідзе.
А лёс у нас у кожнага адзіны,
Ён толькі твой —
ці добры, ці благі.
І колькі б па зямлі мы ні хадзілі,
Не памяняць яго на лёс другі.
Праходзіць час.
Глядзіш, бяда адстане,
І радасць зноў ступае на парог...
Лёс не дае такіх выпрабаванняў,
Якія б кожны вытрымаць
не змог.

* * *

Пад высокімі ліпамі,
На зялёнай траве,
Пляшку з хлопцамі выпілі —
Хмельна мне ў галаве.
І размовы размовамі
Пацяклі, паплылі
Пра былое і новае,
Як жывём, як жылі.
Хвалі возера плёскаюць,
Ліпы ціха шумяць,
І размовы сяброўскія
Не спыніць, ні стрымаць.
Кружыць бусел над хатаю,
Можа, шчасце нясе.
Мы за чаркай багатыя
І разумныя ўсе.
І з такою узнёсласцю
Мы на ліпы глядзім,
І нібыта дарослыя,
А, як дзеці, сядзім.
За сяброўскай бяседаю
Час бяжыць і бяжыць.
І ніхто з нас не ведае,
Колькі суджана жыць.
Ды надзея вялікая
Грэе сэрцы сяброў:
Пад высокімі ліпамі
Мы сустрэнемся зноў.

* * *

Цыгарэту скурыў не адну
І газеты перачытаў,
І ніяк не развеяць сум,
Што смалой да мяне
прыстаў.

Птушкі з поўдня прынеслі вясну,
Дзень і светлы і цёплы стаіць.
Адчапіся, няпрошаны сум,
Дай з вясной
сам-насам пабыць.

* * *

А над зямлёй плывуць-плывуць
аблокі,
А на зямлі — трывогі, неспакой.
Нясу свой крыж і лёгкі,
і нялёгкі, —
Іду жыццём-дарогаю сваёй.

Бывае лёгка —
вецер ў спіну гоніць,
Бывае йду насуперак вятрам,
Ніхто дарогу за мяне
не пройдзе,
Прайсці яе павінен толькі сам.

Я аднаго прашу цяпер у Бога
З усёю непасрэднасцю сваёй:
Хай будзе цяжкай гэтая дарога,
Але не пакручастай,
а прамой.

* * *

Пад небам — высокае сонца...
З тугой і слязой на вачах
Сабралася вёска вяскоўца
Адправіць у нязведаны шлях.

Трапеча агеньчыкам свечка,
І пеўчыя складна пяюць.
І думаюць людзі пра вечнасць,
Пра тое, чаго не мінуць.

Жалосная песня святая
Кранае нам сэрцы ўсім.
І ўсё,
што нажытае маем,
Здаецца нікчэмным такім.

Мы сёння праводзім
вяскоўца,
А некаму заўтра ісці...
І толькі высокае сонца
Свяціла і будзе свяціць.


Людміла КЕБІЧ

## Не раўнуй

Не раўнуй мяне
да сяброўак
да дзіцячых светлых
галовак
ні да кніжак
і серыялаў
да музеяў
мемарыялаў
да мужчын
тэлефонных плётак
і тым больш да маёй работы.

А раўнуй
да пралескаў весніх
чысціні жаўруковай
песні
ручаінаў лясных
і сцежак
да зуброў
да буслоў
на вежах
да блакіту
зямных азёраў
аксаміту нябёсных
зораў
да адзінай на свеце
прычыны —
яснавокай маёй Айчыны.

## Ноч

Заскуголіла ноч адзінотаю,
контрактаўнаю
нізкаю нотаю,
пахіснуўшы душу абертонамі,
ёй да гэтай пары невядомымі.

Стылі думкі
замкнутымі стансамі,
гвалтавалі вятры
дысанансамі.
Так хацелася плакаць
і каяцца,
і адчуць, як дыханне
вяртаецца.
Але лёс гартаваўся
не зоркамі,
а начамі, самотай
прагорклымі;
мне здавалася —
усё абарвалася,
аказалася —
не здавалася.

## Санет

На пераходзе ад зімы да лета
Сустрэліся з табою тэт-а-тэт.
Гучала ты шчымліва-сціплай
флейтай
а я басіў асіпла, як кларнет.

Сышліся строі
нашых інструментаў,
Хоць розніўся крыху дыяпазон,
вясна нам прамінала сантыменты,
стварала для кахання пэўны фон.

Не ведалі больш дзіўнага дуэта —
ігралі мы каханне
проста з нот.
Пакуль не ўбіўся
гэты фат-фагот.

На пераходзе ад зімы да лета
перахапіў ён партыю кларнета,
і флейту спакусіў
чужы факстрот.

НАВЕЛЫ

# Алеся

Дачнік, калі прыехаў пагодлівым травеньскім днём на лецішча, не паверыў сваім вачам: яблынька, якая гадоў сем не абсыпалася цветам і не прыносіла ўраджаю, за што і празвалася пустышкай, цяпер, гэтай вясною, нагадвала нявесту ў пышным святочна-белым убранні, — так хораша, так весела яна цвіла. Не відзён быў ніводзін ліст, галіны таксама ўсе чысце хаваліся ў снежна-белым першацвеце. Адно што ствол добра відне́ўся, ён быў, як стройная дзявочая ножка, загарэлая пад промнямі ласкавага сонца.

Пазней, улетку, яблынька нагадвала цяжарную маладзіцу, ёй станавілася ўсё цяжэй, але яна свяцілася ўся ад завязі плоду.

Душа гаспадара цешылася кожны раз, калі набліжаўся ён да сваёй шчодрай папяровачкі. Дачнік прыемна ўсміхнуўся, здаволены, што мінулаю вясною думкі яго ныя ўзялі верх над пачуццямі і ён не выкарчаваў, не выставіў за вароты зацятую ў сваім бясплоддзі пустышку! Стрываў. Не пашкадаваў ён пятака зямлі і даў дрэву права і надалей кідаць прыгожаю кронаю цень на парэчкі і суніцы.

І вось аднойчы, калі дачнік любаваўся яблынькай, прыйшло на памяць даўняе прызнанне яго роднай сястры. Хацела яна, маці дзвюх дачок, скінуць зачацце, калі ўведала, што зацяжарыла: яшчэ аднаго дзіцяці яна не хацела. І муж не хацеў. Дочкі іхнія ўжо ўвабраліся ў дзявочую красу і сілу. А тут — на табе! — усё спачатку... Але пайшла яна ў царкву на споведзь, і зняў святар з яе цяжар нізкіх думак і сумненняў, растлумачыў, што і ў зародку пазбаўляць дзіцятка жыцця — вялікі грэх, роўны забойству.

Што было далей, брат ведаў: сястра нарадзіла трэцюю дачку, якую назвалі Алесяю. І, нібы ў чарадзейнай казцы, яна, трэцяя дачушка, вырасла самая ласкавая, паслухмяная, старанная, бацькам на радасць, на ўцеху. Аніколі слова грубае ад яе не пачулі.

Старэйшыя замуж павыходзілі, у гарадах аселі. Наязджалі ў родную вёску толькі тады, калі што хацелі ўзяць. Алеся заставалася адзінай падмогаю. І колькі б ні было клопатаў, яна будзе шчабятаці ластаўкай: "Матулечка, татачка, адпачніце, я ўпраўлюся адна". І дроў, і вады наносіць, жывёлу і птушку накорміць. Пойдзе палоць буракі — ні адной зялінкі не пакіне. Ягады збірала — ніхто спрытней не ўмеў.

Дзяўчына паспявала добра вучыцца. Вывучылася на медсястру. У раённай бальніцы працавала. І так ўмела рабіць уколы, што й не пачуеш, калі ўкалола.

Калі і замуж выйшла Алеся і нарадзіла дзіця, бацькоў праведвала. А як здарылася гора — нечакана памёр, учадзеўшы, бацька і параліч ударыў па маці, усе клопаты пра хворую і яе гаспадарку ўзяла на свае кволыя рукі і плечы, папрасіўшы свякруху, каб даглядала дзіця.

На Алесіных руках, як на анёльскіх крылах, і памірала маці ў слязах невымоўнай апошняй радасці ўсведамлення таго, што зямное жыццё застаецца ўпрыгожваць яе Алеся.

Так у дзядзькі на лецішчы нечакана знайшлося імя маладой яблыньцы, над жыццём якой ён некалі быў замахнуўся, — назваў яе чалавечым імем Алеся.

# Паштоўка

Аднапавярховы двухкватэрны дамок, дзе жыла адзіная Алесева ўжо замужняя сястра, туліўся пры больш масіўных будынках у старым квартале, амаль побач з інстытутам, куды Алесь паступіў вучыцца, і непадалёк інтэрната, у якім пасяліўся. І штодня ў вольны ад працы сястры і швагра час ён наведваў іх. Толькі калі трапіў у магічны палон прозы Эрнеста Хэмінгуэя (а юны кніжнік наважыўся за верасень прачытаць усіх нобелеўскіх лаўрэатаў), ён, як сп'янелы, не мог адразу пасля чытання запоем далічыцца, тры ці чатыры дні запар абмінаў сціплую будыніну, у якой жыла сястра. Затое калі ізноў завітаў да яе, тая ўзрадавалася, як ніколі дагэтуль.

— О як добра, брацку, што ўспомніў нас! — сакатала яна, да размовы адразу падключыўся швагер:

— Мы ўжэ намерыліся цябе шукаць у тваім вобшчам жыцці (гэтак па-свойму ён называў інтэрнат).

Сястра з мужам збіралася да ягоных бацькоў у сяло на два тыдні капаць бульбу і, каб менш хвалявацца за кватэру,



Васіль ЖУКОВІЧ

папрасіла брата, каб у ёй пажыў, дала запасны ключ.

Па-свойму унікальная кватэра з пячным абагрэвам, з агульнымі гэтак званым санвузлом, тытанам і ваннаю, страшна далёкая ад камфорту, спадабалася Алесю. Не таму, што пасля вясковай хаты, дзе ён вырас, яна была ў чымсьці больш зручнаю, а таму што ў гэтай кватэры з высокаю столлю лёгка, як і ў бацькоўскай хаце, дыхалася, і яна абяцала цішыню, як абяцаў яе і ўвесь гэты з тоўстымі цаглянымі сценамі дамок наводшыбе глухаватага двара дый спакойны рытм жыцця ў старым квартале горада. А даражэй юнак цішынёй па адной прычыне: самазабыўна захапляўся кнігамі. Яны даўно сталіся яго рэлігіяй, з імі ў руках ён шукаў цішыню ўсюды, дзе б ні апынуўся, — і ў чыталках, і ў інстытуцкіх аўдыторыях, і ў гарадскім парку. Вось і цяпер ён не сумняваўся, што, заняўшы на пару тыдняў кватэру сястры, разам з асобным жыллём, заваладзе неацэнным скарбам цішыні, уяўляў, як вольнымі вечарамі, умасціўшыся на ложку, будзе пры ўтульным святле таршэра дапазна ўпівацца ўсё новымі раманамі.

## II

Пасля інстытута, сталоўкі і гастранома Алесь першы раз вярнуўся не ў свой шумны інтэрнат, не ў кампанію аднакурснікаў — ён шыбаваў, як да прыстані параход, да аднапавярховага дамка, да кватэры, ключ ад якой ляжаў у кішэні пінжака. Стаяў цёплы верасень, і хлопец фарсіў у новым касцюме. У руках ён нёс тоўсты, набіты кнігамі партфель і сумачку з хлебам, ліверная каўбасою, камсой і кефірам — чым не апетытная вячэра дый сняданак?

Алесь ведаў: па суседстве з яго сястрою жыве развядзёнка Галя, пухлая чорнавалосая жанчына гадоў сарака пяці. Цяпер, калі ён адмыкаў знаёмыя дзверы, у суседнюю кватэру прашмыгнулі дзве бландзінкі, здалося, абедзве перафарбаваныя, адна даволі цыбатая, з амаль мужчынскім тварам, другая — прыгожая. Значыць, цётка Галя дома", — падумаў хлопец, ужо зачыняючы за сабою дзверы.

З парога, як і ў бацькоўскім доме, пачыналася кухня. Тут ён уладкаваў прадукты, пераапрануўся ў спартыўны касцюм. Паліць грубку, палівачь вазоны яшчэ не было патрэбы, і ён з партфелем прайшоў у пакой, усеўся ў крэсле пры акне, пачаў чытаць. За любімым заняткам правёў гадзіны дзве. Раптам з двара данёсся дзявочы смех. Алесь зірнуў у акно і ўбачыў, як тыя самыя бландзінкі, якіх, адмыкаючы дзверы, заўважыў у агульным калідорчыку, цяпер вялі ў дамок двух афіцэраў, прыгожая ішла, узяўшыся з кавалерам за руку, цыбатая — абняўшы свайго рукой за талію.

Праз сцены сястрынай і суседчынай кватэр даносіліся гукі музыкі, пасля — звонкія дзявочыя ды басавітыя мужчынскія галасы, затым раз-пораз рыпелі дзверы суседняй кватэры, шчоўкаў, нібы стралаў, іх замок, ляпалі дзверы агульнай прыбіральні. Суцэльная какафонія музыкі, стукаў, рыпу, галасоў парушала душэўны камфорт юнака-кніжніка, не давала яму засяродзіцца.

Увечары, пры святле ліхтароў, вясёлая кампанія высыпала на вуліцу. Сп'янелыя, яны гушкаліся ў дворы на арэлях, гучна гаманілі, смяяліся. Пасля кудысьці сышлі, зноў з'явіліся, гулялі да позняе ночы.

Праз дзень карціна паўтаралася: бландзінкі вялі да Галі новых кавалераў. "Прытон", — падумаў Алесь. Назаўтра ён даведаўся, што ў Галі жыве кватарантка, бялявая Люся, з якой сябруе другая бландзінка, Цыбатая — такой мянушкаю ахрысціў яе Алесь. Яму адкрылася схема, па якой дзейнічалі жывыя ляльki. Модна апранутыя, аздобленыя памадаю, пудраю, яны хадзілі на чыгуначны вакзал у "разведку" і там бралі "языкоў", вядома, з ліку савецкіх афіцэраў, што вярталіся з-за мяжы ў Саюз на адпачынак. Далей спрацоўвала Галіна кухня. Схема, здавалася б, простая, нават прымітыўная, але яна міжволі ўразіла студэнта-кніжніка не менш, чым якая-небудзь аповесць. Ён, праўда, не задумваўся над рухавікам і вынікамі дзеяння маленькай дамскай групоўкі; пра жаночы разлік, пра ўзаемныя інтарэсы бакоў...

Алесь яшчэ не сустракаў слова "секс". Толькі сніліся яму па начах дзяўчаты. Яшчэ й калі ў школе вучыўся, сніліся. Для яго найвялікшай таямніцаю было тое, што адбываецца ў шлюбную ноч паміж жаніхом і нявестаю. У сястры запытацца, вядома ж, не мог, у каго чужога — тым больш: сорамна! Ведаў хлопец і пра пазашлюбныя сувязі. Калі вучыўся ў дзевятым класе, пачуў, што дзесяцікласніцу Валю Кананчук дырэктар школы, зубрападобны Белавец, зрабіў жанчынаю, менавіта гэтак пра іх і казалі. Аднаго разу, калі Алесь пад вечар пайшоў да калгаснае сірты па салому, нечакана там сустрэў яе: салома ёй спатрэбілася таксама. Валя выглядала, як пышная і здобная булачка. Праўда, яму здавалася губатаю, апроч таго, крыху картавіла. Але будзь яна й сапраўднай прыгажуняю, Алесь яе не мог бы пакахаць ужо таму, што стала дырэктаравай, — ён жа хацеў кахання сапраўднага, чыстага, а без пачуцця святога палюбіцца, як казалі на сяле, не мог.

Алесю і цяпер, калі стаў студэнтам, нават не прыходзіла ў галаву, што ён можа запрасіць у госці самую прыгожую аднакурсніцу Марылю, дзяўчыну з доўгай пышнай касою. Хоць бы пацікавіўся, што скажа на запрашэнне, ды і на тое не ставала смеласці. Між тым прага дзявочага цела і пазнання таямніцы дасягала ў ім апагею.

Тое, што ён убачыў тут, у старым квартале горада і што ў яго свядомасці атаясамлівалася з прытонам, было для яго стыхіяй дзікаю і няўцямнаю.

## III

Аднойчы сякі-такі афіцэрык перапаў і гаспадыні суседняй кватэры. Алесь пра тое не ведаў, але здагадаўся ўвечары, калі яна, цётка Галя, ззяючы, як вышараваная каструля, папрасіла яго, каб пусціў да сябе на ноч чатырох чалавек, гасцей, як яна сказала. Алесь не хацеў адмовіць суседцы ў адзінай просьбе амаль за два тыдні суседства. Тым болей, што і пакой і кухня сястрынай кватэры былі ўдвая большыя, чым у яе, прытым на кухні стаяла як бы лішняя — для прыезджых — канапа.

Начнымі гасцямі аказаліся Люся з капітанам і Цыбатая з маёрам. Пасцялілі сабе на падлозе, побач з Алесевым ложкам. Алесь перайшоў спаць на канапу, а ім адраў увесь пакой. Перад сном госці доўга выпівалі і закусвалі. Запрасілі і яго. Ён выпіў адзін кілішак і пажадаў начной кампаніі добрай ночы. А ўначы да Алеся прыходзіла Цыбатая, і ці то з сімпатыі да яго, ці то з удзячнасці за начлег, а мо і з галадухі (мусіць, маёр перабраў спіртнога дый адразу "адключыўся") яна залезла пад халасцяцкую коўдрачку, прыціснулася пышнымі грудзьмі да хлопца, спрактыкавана-азартна рассунула каленам яго санлівыя ногі і паклала між імі сваё ўзбуджальнае сцягно, не паспеў ён і ўцяміць: гэта сон ці ява? Спакуса аказалася нечаканая, ап'яняльна моцная. Да радасці было так блізка, ды Алесь неверагодным намаганнем волі перабароў страснае жаданне разрадкі, — боязь магчымай заразы, а яшчэ памяць уражлівага і гідлівага юнака аб тым, што ў Цыбатай на твары прыкметныя сляды ад фурункулаў (ён гэта ўвечары заўважыў пры святле), стрымалі яго: хоць і было цёмна, цалавацца з ёю не мог, а між тым меркаваў, што без пацалункаў — вусны ў вусны — немагчыма дасягнуць асалоды. Распусніца адчула яго антыпатыю, але не пакрыўдзілася. "Спі, лапушок", — неяк нават ласкава сказала яна, пакідаючы канапу.

Праз дзень вярнулася з мужам Алесева сястра.

## IV

Ішоў час. Алесь працягваў наведваць сястру, і амаль кожны раз ён аказваўся сведкам вясёлых гулянак у суседняй кватэры. Тут яго здзівіла раз цікавая навіна: адзін афіцэр, затрымаўшыся ў Люсі не на адну ноч, як безліч папярэдніх залётных носьбітаў афіцэрскіх зорак, неўзабаве ўпісаў яе імя ў свой пашпарт, хутка і павёз з сабою — некуды на Украіну.

Міні-прытон распаўся ўраз, бо і да гаспадыні прыбіўся адзін дзівак, праўда, не вайсковец, а цывільны. Тут ён, як кажуць матросы, кінуў якар. Нарэшце, у дамку, куды Алесь усё часцей заглядваў, запанавала цішыня.

Былую Галіну кватарантку Люсю і яе сяброўку Алесь не ўспамінаў — не было нагоды. Але аднойчы, калі пасля лекцый завітаў да сястры, на масніцы ў калідорчыку ўбачыў паштоўку. Ён падняў, думаючы, што яна адрасаваная сястры ці швагру. Аказалася, Люся скардзілася Галі на свайго мужа: "Ён, Галічка, не такі, пра якіх марылі мы". Алесь цэлы дзень быў пад моцным уражаннем: аказваецца, і блудніцы здольныя марыць пра ідэальных мужоў. Нічога падобнага юны кніжнік не вычытаў яшчэ ні ў адным рамане.

**13—16 верасня 2000 г.**
**Віліна, Бахчысарайскі раён**



шагаловский
международный
ежегодник
2002

# Ад Ніццы да Мінска і Віцебска

Хто ж не памятае, што сакральнай ліпеньскай ноччу беларусы адзначаюць спаконвечнае і самабытнае народнае свята — Купалле! Час гэтага незвычайнага свята — каларытны і рытуальны, ахінуты паданнямі ды легендамі, артыстычны і загадкавы. Міжволі задумаешся: відаць, невыпадкова падарыў ён свету асоб сапраўды выбітных, адзінкавых і заўважных нават у пантэоне адметных творчых постацяў.

Акурат сёмага ліпеня нарадзіўся геній нашага народа, пясняр Беларусі Янка Купала.

Яшчэ — Густаў Малер, геніяльны аўстрыйскі музыкант, адзін з апошніх, можна сказаць, класічных кампазітараў-рамантыкаў, чыя творчасць вянчала пэўны напрамак і пэўную эпоху ў акадэмічным музычным мастацтве.

І знакаміты наш зямляк, мастак Марк Шагал нарадзіўся таксама ў гэты дзень. Сёлета на яго роднай віцебскай вуліцы Пакроўскай прайшло традыцыйнае тэатралізаванае свята "У гасцях у Марка і Бэлы". Змястоўнымі, як відавочцы кажуць, атрымаліся ў Віцебску і чарговыя Міжнародныя Шагалаўскія чытанні. Дарэчы, менавіта правядзенне з пачатку 90-х гадоў афіцыйных імпрэз, прысвечаных асобе і творчасці сусветна знанага віцябляніна, падрыхтавала глебу для з'яўлення "Шагалаўскага міжнароднага штогодніка", першы выпуск якога летась пабачыў свет.

Што ўяўляе сабой новае выданне? Пад рэдакцыяй вядомага віцебскага журналіста і краязнаўцы А.Падліпскага склаўся унікальны зборнік пазнаваўчых матэрыялаў, звярстаных па рубрыках "Даследаванні", "Мемуары", "Архіў", "Шагалаўскія адрасы", "Retго", "Тэатр", "Кніжныя навінкі", "Хроніка падзей" ды інш. Аўтары навукова-папулярных артыкулаў — гісторыкі, журналісты, педагогі, мастацтвазнаўцы, літаратары, краязнаўцы, калекцыянеры. Віцябляне і мінчукі, жыхары Германіі, ЗША, Ізраіля, Расіі.

Ажыццёўлена новае выданне тыражом 500 асобнікаў пад грыфам Віцебскага краязнаўчага фонду імя А.Сапунова. Генеральны спонсар штогодніка — І.Райхельсон (ЗША). У ім з цікавасцю чытаецца кожная старонка. Тут і аповед К.Меера пра вітражы сабора св. Стэфана ў Майнцы. І асэнсаванне Я.Шунейкам жывых повязяў шагалаўскай творчасці з беларускімі народнымі тэкстыльнымі традыцыямі, да якіх мастак быў спрычынены з маленства ("Народжаны ў кашулі з набіўным арнаментам"). Тут і гіпотэзы Г.Запартыкі ды Н.Усавай з нагоды знойдзенага ў архіве шагалаўскага аўтографа — ліста да мастака Ю.Пэна. І даследаванне Л.Наліўайкай "чорнай" серыі ваенных малюнкаў. Тут і расказаная А.Падліпскім гісторыя з'яўлення беларускіх паштовых марак з выявамі шагалаўскіх работ. І салідны навуковы нарыс У.Мальцава "Марк Шагал — мастак тэатра" (1918-22 гг., Віцебск — Масква)...



Дарэчы, выстаўка "Марк Шагал і сцэна" працуе цяпер у Мінску, у Нацыянальным мастацкім музеі краіны. Унікальная экспазіцыя, складзеная са збораў унучак мастака, наладжана адной з іх — М.Меер-Грабер, Міністэрствам культуры РБ і самім музеем пры фінансавай падтрымцы пасольства Францыі, прадстаўніцтва кампаніі "Пежо" і унітарнага прадпрыемства "Дарыда". Наведнікі выстаўкі атрымалі магчымасць паглядзець без малога чатыры дзесяткі работ: эскізы дэкарацый, роспісаў, касцюмаў для Яўрэйскага камернага тэатра і аналагічную падрыхтоўчую працу да сцэнаграфічнага афармлення балетных спектакляў «Жар-птушка» на музыку І.Стравінскага і «Дафніс ды Хлоя» на музыку М.Равеля.

У Мінску выстаўка — да 12 верасня. Затым яе прыме Музей Марка Шагала ў Віцебску, дзе экспазіцыя працягнецца да 17 кастрычніка. Цікава, што дзень нараджэння мастака, паводле традыцыі, адзначаўся і ў па-свойму роднай для яго Ніццы. Але ўнучка М.Меер-Грабер, чыя абавязковая прысутнасць на такіх урачыстасцях — рэч сама па сабе зразумелая, аддала перавагу чарговай вандроўцы на Беларусь. Віцебскія дзедавы гены?..

**С.БЕРАСЦЕНЬ**



# "Вам заданне"

Мажліва, ужо ў жніўні-верасні "Беларусьфільм" выпусціць новую работу — "Вам заданне". Яна знята паводле сцэнарыя Мікалая Чаргінца і Алены Калюновай рэжысёрам Юрыем Бяржыцкім.

Дзеянне фільма разгортваецца на тэрыторыі Беларусі падчас Вялікай Айчыннай вайны. Ёсць тут і "мірныя" кадры: вяселле аднаго з герояў, якое адбываецца 21-га чэрвеня сорак першага, і эпізод на вакзале ва ўжо вызваленым ад фашысцкай навалы правінцыйным беларускім горадзе.

Як сказаў падчас адной нядаўняй сустрэчы з журналістамі галоўны рэдактар студыі "Беларусьфільм" Георгій Марчук, нашы кінематаграфісты, ствараючы карціны пра вайну, ідуць двума шляхамі: або праз глабальнае эпічнае палатно паказаць лёс асобнага чалавека, або праз камерны сюжэт раскрыць лёс Айчыны. У стужцы "Вам заданне" эпічны ахоп падзей не замінае аўтарам прасачыць лёс кожнага героя, раскрыць іх пачуцці, паказаць іх рысы характару, іх адданасць патрыятычнаму абавязку і адказнасць перад уласным сумленнем.

А героі гэтай вострасюжэтнай ваенна-патрыятычнай драмы — супрацоўнікі міліцыі, якія поруч з вайскоўцамі абараняюць Беларусь ад нямецкіх агрэсараў, а потым змагаюцца з бандытамі на яе вызваленых тэрыторыях. У цэнтры кінааповеду — сям'я Купрэвічаў, бацькоў ды трох сыноў. Зняліся ў новым фільме Віталь Ходзін, Валянцін Кляменцьеў, Альбінас Келерыс, Валерыя Арланава, Святлана Кажамякіна, Наталля Вінцілава.

**С.ВЕТКА**



*НА ЗДЫМКАХ: эпізоды новага фільма. Фота А.Дзмітрыева*

# Шануйма класікаў!

Нядаўна шэраг новых назваў вуліц, пераменаваных у гонар гістарычных асоб, знаных дзеячаў беларускай культуры і мастацтва, з'явіўся ў нашай сталіцы пасля далучэння да яе некаторых тэрыторый Мінскага раёна і ў сувязі з уладкаваннем ускраін. Але ёсць такі факт і ў самым цэнтры горада: бульвар імя Луначарскага перайменаваны ў бульвар Мулявіна. Гэта маляўнічы куток за будынкам Беларускай дзяржаўнай філармоніі, у сценах якой адбывалася калісьці станаўленне ансамбля «Песняры». У перспектыве тут плануецца таксама ўзвядзенне помніка Уладзіміру Мулявіну. Аднак мастацтва слыннага калектыву, як і ўласная музычная творчасць яго заснавальніка і лідэра, безумоўна, застанецца лепшым помнікам гэтаму таленавітаму чалавеку.

* * *

Урад нашай краіны прыняў пастанову аб увекавечванні памяці пра класіка айчыннага музычнага мастацтва, кампазітара, народнага артыста Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР прафесара Анатоля Багатырова. У адпаведнасці з гэтым афіцыйным рашэннем у Мінску будзе ўстаноўлены надмагільны помнік Багатырову і мемарыяльны знак на доме, дзе ён доўгі час жыў. З першага студзеня наступнага года для выдатных студэнтаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі засноўваецца стыпендыя імя Анатоля Багатырова. А ў цудоўным горадзе Віцебску, дзе нарадзіўся знаны кампазітар і педагог, адна з вуліц атрымае яго імя.

Што і казаць, імя гэтае — сапраўды знакавае для нашай культуры. Анатоль Васільевіч Багатыроў пражыў роўна 90 гадоў і летась, толькі-толькі паспеўшы адзначыць гэты шаноўны юбілей, завяршыў свой доўгі зямны шлях. Пра яго выбітную, багатую творчую асобу не трэба складаць легенды. Само жыццё Багатырова было, як легенда: доўгае, прыгожае, духоўна змястоўнае, багатае на шматлікія падзеі. У гісторыі беларускай музычнай культуры ён і застанецца легендарнай асобай, заснавальнікам сучаснай, сапраўды класічнай айчыннай кампазітарскай школы, які выхаваў не адно творчае пакаленне. Ён быў захавальнікам лепшых традыцый класічнага мастацтва і ва ўласных творах.

**Я. КАРЛІМА**

# Будзем лепшае глядзець!



Яшчэ не восень, а нагадаў пра сябе... "Лістапад". Мінскі міжнародны кінафорум абяцае разнастайную змястоўную праграму, з праектам якой пазнаёміў сталічных журналістаў дырэктар фестывалю Валянціна Сціпанава і яго прэзідэнт Расціслаў Янкоўскі.

Яфрэмава "Дунечка", прысвечаным памяці артыста Мікалая Яроменкі-малодшага. Паказ у Мінску стужак іншых кінастудый часткова пацверджаны, часткова абмяркоўваецца, прынамсі, з удзелам замежных пасольстваў. Фестывальны экран чакае такіх мастацкіх карцін, як "Словы і музыка", "Багіня", "Кіроўца для Веры" (Расія), "Галавой аб сценку" (Германія), "Танцуючы ў пыле" (Іран), "Блаславі маю турму" (Румынія), "Бунт свінні" (Эстонія), "Ноч светлая" (Украіна), "Калі прыходзіць патрэбны чалавек" (Швейцарыя) ды інш. На дзіцячы "Лістападзік" патрапяць прадукцыя кітайскай кінавытворчасці, французская анімацыя...

Незалежна ад карэктываў (а яны, безумоўна, яшчэ будуць) праграму складуць пераважна стужкі-прызёры міжнародных кінафорумаў. Сярод замоўленых — работы В.Тадароўскага, В.Агароднікава, С.Салаўёва, Р.Літвінавай, Р.Балаяна; сенсацыя года "Свае" расіяніна Дзмітрыя Месхіева; кінадэбют "Шыза" (Казахстан); пазаконкурсная прэзентацыя дакументальнай амерыканскай стужкі "Чарнобыльскае сэрца", ганараванай "Оскарам"...



20 лістапада ў Палацы Рэспублікі мае адбыцца ўрачыстае адкрыццё гэтага папулярнага свята кінамастацтва, праз шэсць дзён — закрыццё. Свята свята, а конкурснаму журы давядзецца напружана папрацаваць, за даволі кароткі час праглядзець і ацаніць новыя работы майстроў і дэбютантаў з Арменіі, Балгарыі, Германіі, ЗША, Ірана, Італіі, Казахстана, Кітая, Польшчы, краін Прыбалтыкі, Расіі, Румыніі, Сербіі, Турцыі, Украіны, Францыі, Швейцарыі, Японіі...

Беларусь будзе прадстаўлена фільмам рэжысёра Аляксандра

"Карціны, уже адабраныя для паказу на "Лістападзе", адна за адну лепшая, і найлепшае ўражанне сярод іх робяць рэжысёрскія дэбюты, — зазначыў народны артыст СССР Р.Янкоўскі. — Мне вельмі хочацца, каб беларусы глядзелі самае лепшае, што ёсць сёння ў кіно..." Лепшае з лепшага вызначыць міжнароднае журы, персанальны склад якога і кандыдатура старшыні ўдакладняюцца.

С.Б.



Са здымачнай пляцоўкі фільма "Дунечка". *Фота А.Дзмітрыева*

---

◊ У жніўні споўнілася б 70 гадоў Змітеру БЯСПАЛАМУ, аўтару зборнікаў гумарыстычных апавяданняў "Сякера пад лавай", "Ад варот паварот", зборніка "Беларускія народныя жарты" і шэрагу кніг для дзяцей.

◊ 70 гадоў павінна было споўніцца Міхасю ПАРАХНЕВІЧУ, які выдаў кнігі прозы "Грыбны дождж", "Зара-заранiца", "Абяцанне", "Маё і твае маленства", "Чаромхавы ранні цвет", "Белыя цені бяроз", зборнік вершаў "Жыццё", творы для дзяцей і інш.

◊ У жніўні споўнілася 90 гадоў з дня нараджэння Васіля БУРНОСАВА, аўтара літаратурна-крытычных артыкулаў па творчасці Янкі Купалы, Якуба Коласа, Міхася Лынькова, Аркадзя Куляшова і іншых беларускіх пісьменнікаў.

---

## Пераклады

ЭСЭ

**Алесандра БАРЫКА**

# У палёце з Леанарда да Вінчы

Перанясіся думкамі ў Імалу 1502 года, калі там позняя восень, ужо амаль зіма. І нічога, што там паўсюль вайскоўцы і жахлівы беспарадак, учынены Чэзарам Борджам, якому ў галаву прыйшло гвалтам захапіць Эмілію-Раманню, а можа, нават і Фларэнцыю. Важна іншае: калі б прайшоўся па гэтым горадзе, дык, пры пэўным збегу акалічнасцяў, магло здарыцца надзвычайнае — ты б сустрэў і Леанарда да Вінчы, і Нікало Макіявелі. У той час ты, бадай, не прасіў бы ў іх аўтографаў, але, тым не менш, убачыў бы такіх славутых асоб і меў бы заўсёды што расказаць.

Тады там знаходзіліся абодва: Макіявелі служыў паслом Фларэнцыі (як дзеля таго, каб шпіёніць, часткова, так і дзеля таго, каб уміласцівіць Борджу), а Леанарда быў "самым выдатым і самым любімым прыдворным архітэктарам і галоўным інжынерам" вышэйназванага Борджа, — карацей кажучы, яны апынуліся па розныя бакі. Адзін складаў і дасылаў падрабязныя, трывожныя данясенні, другі займаўся канструяваннем баявых машын і падобнага кшталту прыстасаванняў. Яны бралі ўдзел у адной і той жа бітве, але на розных узроўнях. На жаль, мы не маем ніякіх надзейных падстаў сцвярджаць, што шляхі іхнія — хоць адзін раз, выпадкова нават — перасякаліся.

Звестак пра Макіявелі ў мяне больш няма, а вось пра Леанарда — ёсць.

Мне вядома, напрыклад, што недзе паміж выкананнем праектаў пад'ёмнага крана і кулямёта ён захапіўся такой, куды менш значнай справай, як складанне плана Імалы. Да таго часу Леанарда падпарадкоўваўся рацыянальным задачам. Ды не быў бы ён Леанардам да Вінчы, каб не намерыўся стварыць вось што: дакладны план горада як выгляд зверху, зафіксаваны пад абсалютна прамым вуглом да паверхні зямлі — нібыта сучасны фотаздымак з самалёта. Пра самалёт ён тады яшчэ не думаў, пра фатаграфію — тым больш. Аднак, выходзіць, глядзеў-такі з вышыні палёту, і як бы фатаграфаваў адтуль. Думкамі ён быў ужо там.

Цяпер намаляваны Леанардам да Вінчы план Імалы захоўваецца ў Віндзарскіх фондах, якія належаць англійскай каралеве. На пачатку студзеня 1995 года план гэты можна было ўбачыць у Імале, куды яго прывезлі разам з іншымі леанардаўскімі рэліквіямі. Адзін чытач з Імалы прыслаў мне яго... Яго рэпрадукцыю ў каталогу выставы.

Каталог жа ў мяне разгарнуўся якраз на той старонцы, а дакладней — на развароце, дзе змяшчаўся каляровы план незвычайнай прыгажосці. Няма дакладных звестак пра тое, як канкрэтна ён выконваўся. Уражвае адна з найбольш абгрунтаваных гіпотэз: Леанарда абышоў увесь горад, лічачы крокі і вымяраючы вуглы, а потым свае разлікі пераўтварыў у незвычайнай візіі — тое, што мог убачыць арол, які лунаў над горадам.

Уяўляю сабе, як Леанарда ходзіць уздоўж сцен, перасковае лужыны і кучы конскага памёту, не падымаючы галавы, увесь час падлічваючы крокі. Потым запісвае лічбы і пераходзіць да наступнага квартала (напэўна, людзі навокал думалі: "Во, глядзі — вар'ят!"). І нарэшце ў сваёй майстэрні Леанарда завяршае тытанічную працу па перадачы звышнатуральнай дакладнасці: чарнілам і фарбамі пераносіць на паперу адлюстраванне паводле разлікаў, магчымых толькі пры поглядзе з самалёта альбо вачыма самога Бога. Я не перастаю думаць, як было б сапраўды цудоўна і выратавальна, каб навучыцца ствараць падобныя планы не толькі гарадоў, як у дадзеным выпадку — Імалы, а чалавечага жыцця: вымяраць крок за крокам тое, што здараецца з табою, а потым здолець узняцца і паглядзець на гэта зверху; умець лічыць імгненні, але адчуваць гады; мець магчымасць хадзіць і лятаць; жыць і разумець — усё адначасова. І вось калі я разглядаю гэты план, у мяне пачынае сціскацца сэрца. Мабыць, таму, што перада мною, уласна, план не толькі горада Імалы, а нездзяйснянага.

На такую выснову наводзіць яшчэ і тое, што план, створаны Леанардам да Вінчы — дакладны і выразны ды яшчэ і надзвычай прыгожы. Ён амаль празрысты, выкананы ў далікатных жоўтых ды блакітных танах і абведзены кругам, які нібыта адлучае яго ад паперы і ад усяго свету. Гэта нейкая мара пад павелічальным шклом. Шэрагі дамоў з больш цёмнымі контурамі, плошчы пададзены як светлыя плямы, гарадскія муры акаляе блакітны канал, у ваколіцах — лугі і дарогі, што выходзяць з горада, пранізваючы межы круга. Ікона. У ніжняй частцы плана, пад сцяною горада, вялікая стужка ракі. Гэта нават не рака, а мара. Напэўна, пераздаволены дакладнасцю картограф тут саступіў месца мастаку. Яшчэ больш празрыстая, чым усё астатняе, рака нагадвае бірузовы шлейф дыму, які пакінула за сабою нейкая чараўніца, і гэта ён сцелецца па палях. Калі глядзіш на гэтую раку, з'яўляецца жаданне дакрануцца да яе. Але пасля дотыку пальцам здзіўляешся — паколькі чакалася, што яна, сама меней, з шоўку.

Не зусім тое адчуваеш праз каталог. Іншая справа — пэўна, арыгінал; у Імале, калі кранеш раку, то адчуеш шоўк.

**Пераклад з італьянскай мовы Уладзіміра ЧАРОТЫ**



Фота А. Лычаўкі

# І здзіўленне гледачоў пераходзіць у захапленне

**Цырк, у цяперашнім разуменні гэтага слова, быў заснаваны англійскім наезнікам Філіпам Астэлеем. У красавіку 1782 года ён набыў вялізны ўчастак зямлі каля прадмесця Тампль і стварыў там вялікі амфітэатр, дзе дэманстраваліся цікавыя нумары, чым выклікаў захапленне публікі.**

Новы праект Беларускага дзяржаўнага цырка "Прысвячэнне" ("ЛіМ" пісаў у нумары за 23 ліпеня) праходзіў у XXI стагоддзі. Аднак захапленне гледачоў, мяркую, было не меншым, чым у часы Астэлея. Так, артысты вышэйшай школы акрабатыкі пад кіраўніцтвам Яўгена Курбатава прадэманстравалі на манежы і моц, і фізічную прыгажосць. Але пачну пра ўсё па парадку...

Перш чым казаць пра акрабатыку, адзначу, што яшчэ ў першай палове XIX ст., у адрозненне ад астатніх жанраў цыркавога мастацтва, яна развівалася акрамя звычайных і ў вандроўных цырках.

Ва ўсе часы рэпертуар акрабата складаўся з акрабатычных скачкоў, самых рознахарактарных па лініі ўзлёту, кружэння і коўзання цела ў паветры і вяртання яго на кропку апоры. Тут і разнастайныя пярэднія і заднія сальта, піруэты і паўпіруэты, флік-флякі, курбеты, твісты... Уяўляеце сабе складанасць такіх выступленняў?



Сёння трукі, якія выконваюць акрабаты на манежы Белдзяржцырка, звязаны з захаваннем раўнавагі. Таму ў сваіх нечаканых скачках выканаўца нумара "Акрабаты на шастах" Аляксандр Сцепанкевіч дэманстраваў такі спрыт, што здзіўленне гледачоў адразу ж пераходзіла ў захапленне. Адзначу, што пераможца міжнародных конкурсаў Аляксандр Сцепанкевіч займаецца гімнастыкай з шасці гадоў. Скончыў Мінскае вучылішча алімпійскіх рэзерваў. Пасля захаплення акрабатыкай пачаў працаваць у цырку (з 2001 г.), дзе і сустрэў Яўгена Курбатава, з якім уражвае публіку і па сёння..

Наогул, праца цыркавых артыстаў ва ўмовах вандроўнага жыцця (гастролі часам працягваюцца да чатырох месяцаў) і неўладкаваным быце — подзвіг людзей, якія фанатычна адданыя любімай справе.

Як на маю думку, дык Аляксандр побач з іншымі артыстамі праекта, якіх таксама можна пабачыць пад купалам Белдзяржцырка — самы пластычны акрабат. Хаця і ўсе астатнія — проста цуд! Нагадаю, што артысты акрабатычнага нумара выконваюць трукі без страхоўкі. "У чым сакрэт?" — задумаецеся вы. На гэтае пытанне я папрасіла адказаць самаго Аляксандра Сцепанкевіча. "Падчас выканання трукаў я заўсёды адказваю за сваю працу, адпаведна мае партнёры адказваць за сваю, і так мы працуем як адно цэлае. Я дакладна ведаю, што калегі заўсёды зловяць мяне, — дзеліцца ўражаннямі Аляксандр Сцепанкевіч. — Разумееце, самы складаны трук... апошні. У гэты момант мне патрэбныя апладысменты залы, паколькі глядач дае зарад энергіі. А калі апладысментаў няма, шчыра кажучы, непрыемна і цяжка выступаць". Сапраўды, энергетыка залы стварае цуд, і ўдзячныя артысты прыкладаюць усе намаганні: лепей, яшчэ лепей... Рэакцыя публікі — авацыі, крыкі захаплення — мае невераготнае значэнне. Яны не толькі падбадзёрваюць артыстаў, але і дапамагаюць змагацца з хваляваннем. Хваляванне, як давялося мне высветліць, суправаджае артыстаў заўжды і не залежыць у першы ці соты раз ты выходзіш на манеж. "Шчыра кажучы, вельмі складана з эмацыйнага пункту гледжання выконваць трук на вачах шматлікай публікі. Але я ганю дрэнныя думкі ад сябе і проста стараюся ў працы. Можа, таму ўсё і атрымліваецца добра", — падкрэсліў Аляксандр Сцепанкевіч. Паводле яго слоў, акрабат павінен дэманстраваць на манежы адвагу, фізічную прыгажосць і сабранасць. "Без апошняй якасці немагчыма рэалізаваць сябе як артыста", — перакананы ён.



Сапраўды, талент цыркавых артыстаў шматгранны, спалучае смеласць, раскаванасць і рызыку. Нельга забывацца на тое, што манеж — нестандартнае месца, якое мае сваю аўру. І "вытрымаць" яе дадзена не кожнаму. Толькі артыст ведае, наколькі цяжка працаваць, калі на цябе глядзяць з усіх бакоў, як кажуць, поглядамі ціснуць на ват у патыліцу. "Я адчуў на сабе, што значыць пераадоленне мяжы, за якой манеж. І паверце, пачуццё перамогі нельга ні з чым параўнаць", — адзначае суразмоўца Сцепанкевіч.

Падчас прагляду той жа праграмы "Прысвячэнне" можна заўважыць: тэхніка акрабатычных трукаў адпрацаваная да дробязяў. Вядома ж, рэпетыцыі адымаюць шмат часу і сілаў. "Працаваць над сабой варта штодзённа не толькі для таго, каб падтрымліваць фізічную форму, а каб было лягчэй выступаць на манежы і зноў і зноў заваёўваць гледачоў", — прызнаецца артыст.

Варта адзначыць, што ў выкананні нумара вялікую ролю адыгрывае і музычнае афармленне. Аляксандр, да прыкладу, аддае перавагу хуткай музыцы, паколькі лічыць, што яна павінна "заводзіць" не толькі яго самога і калег, але і тых, хто ў зале.

Не сакрэт, што кожны артыст запамінаецца публіцы чымсьці асаблівым, падчас гэта якая-небудзь малазначная дэталь касцюма, каляровая стужка, манера насіць галаўны ўбор, слова, поза, жэст... У Аляксандра Сцепанкевіча такой дэталлю з'яўляецца скураная павязка, якую ён завязвае на галаву. Менавіта з ёй звязаны і прымхі, якія ўласцівы ўсім артыстам, ды і кожнаму чалавеку наогул. "Напярэдадні выступлення я завязваю павязку сюды, каля сэрца", — кажа артыст, паказваючы рукой на грудзі. Дарэчы, калі шукаць узаемасувязь паміж сэрцам і верай у перамогу, адзначу, што невыпадкова сэрцам цырка лічыцца арэна. Безумоўна, удача патрэбна артыстам, паколькі без яе немагчыма дасягнуць поспеху.

З 1 жніўня нашы акрабаты са сваім нумарам пачалі працаваць у Егіпце. Сёння за плячыма артыста Аляксандра Сцепанкевіча Галандыя, Катар і іншыя краіны свету, а таксама... прыз прынца Манака і "Залаты клоун" Міжнароднага конкурсу ў Рыме. Застаецца толькі пажадаць, каб за гэтымі выдатнымі ўзнагародамі былі і іншыя прызы.

**Марына ЦЯРЭШЧАНКА**

# Яго сінявокі ліпень

***Барыслава Стэпанюка, заслужанага работніка культуры Украіны і Кыргызстана, творчасць якога ўганаравана літаратурнымі прэміямі П.Тычыны і У.Сасюры, беларусы ведаюць увогуле даўно і даволі нядрэнна. Яшчэ ў 1977 годзе у перакладах Р.Барадуліна, А.Бялевіча, А.Вялюгіна, К.Камейшы, К.Кірэенкі, У.Паўлава, А.Пысіна і інш. выдавецтва "Мастацкая літаратура" выпусціла ў свет кніжку гэтага вядомага ўкраінскага паэта "Матчына слова" ў прэстыжнай у той час серыі "Паэзія народаў СССР". Назва кніжкі не мела ў сабе вуалі метафарычнасці: беларускае слова, на якім загаварыў паэт, сапраўды было родным словам яго маці. Вось як пра гэта сказаў сам Стэпанюк у адным са сваіх вершаў (у перакладзе К.Кірэенкі):***



*З-пад Гомеля,*
*з надсожскіх берагоў,*
*Дзе луг і лес*
*вясной прыгожыць квецень,*
*Дзяўчыну, найцудоўнейшую*
*ў свеце,*
*Адзін баец*
*са шчорсаўскіх палкоў*
*Перапісаў*
*на род Стэпанюкоў;*

*Прывёз у блізкі,*
*але іншы край...*
*І зжыўшыся з народнай*
*стараною,*
*Яна, з тугой заўсёды,*
*па-над мною*
*Па-свойму спеў складала:*
*"Баю-бай,*
*Спі, мой саколік родны,*
*засынай..."*




"Прыняў любоў да мілай Беларусі // Я з матчыным, як кажуць, малаком", — у гэтым паэтычным выказванні Стэпанюка няма перабольшання. Менавіта маці — і нізкі ёй наш, беларускі, паклон за гэта! — у спадчыну свайму сыну перадала не толькі васільковы блакіт вачэй, але і пажыццёвую любоў да блакітнавокай Беларусі, што выявілася ў ягоных творах, прысвечаных нашай краіне ("Ой, ляцелі гусі з Беларусі", "Матчына мова", "Песня Янкі Купалы" і інш.), у шматлікіх перакладах твораў беларускіх паэтаў на ўкраінскую мову, ва ўкладанні двухтомнай анталогіі "Украінская савецкая паэзія", што выйшла ў Мінску ў 1975 годзе на беларускай мове, і г.д. І гэтая любоў не прыменшыла — наадварот, яшчэ больш узмацніла! — сыноўнюю адданасць Стэпанюка роднай Украіне, а таксама глыбокую павагу да далёкага Кыргызстана, дзе паэт далечваўся пасля цяжкага ранення і ампутацыі рукі на Волхаўскім фронце пад Ленінградам, а затым вучыўся ў Кіргізскім педінстытуце, авалодваў кіргізскай мовай, вывучаў творчасць сярэднеазіяцкіх акынаў...

Вось так і жывуць суладна ў сэрцы Барыслава Стэпанюка тры любові: да Украіны, Беларусі і Кыргызстана. Жывуць не адно дзесяцігоддзе. Жывучы, выяўляюцца ў творах, што ўвайшлі ў больш чым трыццаць яго арыгінальных паэтычных кніжак, у тым ліку і ў самую апошнюю па часе выхаду — вялікую, на 400 з гакам старонак, кніжку выбраных твораў "У перабегу гадоў і лёсаў", якая (з некаторым спазненням) выйшла да 80-годдзя паэта (нарадзіўся ён 16 ліпеня 1923 года на суседняй з Беларуссю Чарнігаўшчыне).

Радуе, што наш пабрацім і ў паважаным узросце застаецца маладым душой, верным колішнім ідэалам дэмакратыі, свабоды, братэрства, нераўнадушным да ганьбавання гістарычнай, у тым ліку ваеннай, памяці, чалавечай годнасці. Яго ўласны "сінявокі ліпень" ("Мой сінявокі ліпень" — так называецца верш паэта, вянок санетаў, а таксама асобная кніжка выбраных твораў, што выйшла калісьці да яго пяцідзесяцігоддзя) на пачатку 1990-х гадоў сустрэўся з лёсаносным усеўкраінскім жніўнем, калі ў выніку распаду СССР Украіна набыла дзяржаўную незалежнасць. Барыслаў Стэпанюк, як і абсалютная большасць украінцаў, з радасцю сустрэў гэтую доўгачаканую і выпакутаваную падзею.

*Настала мить, ні,*
*вибухнула мить!*
*Одразу посвітлішала*
*блакить,*
*А сонце, як дитя,*
*протерло очі.*

*Слова зашикувалися в рядки,*
*Готові плоттю й кров'ю*
*стать думки,*
*І серце вже не б'ється,*
*а стукоче!*

Радкі санета "На грані", напісанага ў 1991 годзе, добра выяўляюць тагачасны (дый у значнай ступені і сённяшні) настрой Барыслава Стэпанюка. Паэт стаў адраджэнцам — культуры, мовы, гістарычнай памяці, нават самай балючай (галадамор 1932 — 1933 гг., шматлікія рэпрэсіі і інш.), роднага народа. У той жа час ён не зрабіўся адрачэнцам ад усяго былога. Ён помніць і тое добрае, што звязана з ранейшымі краінай і сацыяльным ладам: цеснае культурнае ўзаемадзеянне і ўзаемаўзбагачэнне народаў на велізарным абшары еўразіяцкага мацерыка, адсутнасць жабрацтва і арганізаванай злачыннасці, узброеных канфліктаў, рэзкай сацыяльнай дыферэнцыяцыі насельніцтва... Паэт, разам з тым, цвяроза глядзіць і на некаторыя балючыя праблемы сённяшняй незалежнай украінскай дзяржавы: пэўную сацыяльную няроўнасць, выпадкі безгаспадарчасці, абыякавых адносін да ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, выміранне сяла:

*...Село вже й не колгоспне —*
*все одно*
*Таке ж пустельне*
*і людьми старече:*
*Хрест-нахрест стільки*
*хат — моє вікно,*
*Світ юних мрій і див, також*
*приречє.*

У кніжку выбраных твораў Барыслава Стэпанюка ўвайшлі многія вершы і паэмы ранейшых гадоў, а таксама творы, напісаныя ў апошняе дзесяцігоддзе. Радасна, што паэт і ў сваім паважаным узросце не збаўляе ранейшага творчага тэмпарытму, не дае душы ленавацца. Здзіўляе шырыня яго не толькі тэматычнага, але і жанрава-відавога дыяпазону. Аўтару кніжкі падуладны верш лірычны і паэма, балада і легенда, белы верш, санет, рубаі... У апошнія ж гады сваю ўласную і адначасна ўкраінскую паэзію Стэпанюк узбагаціў трыма цікавымі вянкамі санетаў: "Вянок маёй Лауры" (зіма 1996—1997), "Сінявокі мой ліпень" (вясна 2001) і "Любоў як хлеб надзённы" (студзень-люты 2002). Я наўмысна прыводжу даты напісання гэтых твораў, каб паказаць творчую моц сённяшняга паэта. Вядома, як нялёгка напісаць нават адзін вянок санетаў, а тут цэлых тры! Прычым, магістрал першага напісаны ў выглядзе акраверша, у якім прачытваецца назва ўсяго твора. Магчыма, гэта першы такі вянок санетаў ва ўсёй нябеднай на таленты ўкраінскай паэзіі. Значыць, не старэюць душой ветэраны-паэты, не прытупляюцца іх пёры, не змяншаецца творчая энергія!

У кнізе "У перабегу гадоў і лёсаў", безумоўна, прыемна сустрэцца і з беларускімі матывамі. Гэта, у прыватнасці, верш "Пагоня: Перакладаючы Максіма Багдановіча" (1993) з яго актуальным сучасным перагукам:

*Вже на камені*
*Гострої Брами*
*У сусідній Литві заяскрів*
*Герб, як щит,*
*із тими вояками,*
*Що із полоцьких мчали борів.*

*Ну а твій, заозерений краю*
*(Вітерець синь-імглу*
*розганя),*
*Хто твій герб до воріт*
*прибиває,*
*Білогривця спинивши, коня?*

У кнігу паэт уключыў і вялікі раздзел перакладаў на ўкраінскую мову твораў розных паэтаў свету. Сярод іх — побач з расійскай і кіргізскай — найбольш годна прадстаўлена і беларуская вершатворчасць. Гэта вершы (падаю згодна іх размяшчэння ў кніжцы) М.Багдановіча ("Санет"), С.Грахоўскага ("Добры дзень"), Максіма Танка ("Хлеб наш надзённы"), А.Куляшова (З цыкла "Маналог"), П.Панчанкі ("Маім гераіням"), К.Кірэенкі ("Нашчадкам Тараса"), А.Пысіна ("Ручнікі"), П.Прыходзькі ("Ляцяць гады"), А.Вялюгіна ("Чаканне"), Р.Барадуліна ("Мая Бацькаўшчына"), У.Паўлава ("З выраю гусі крычаць") і Т.Мельчанкі ("Бяроста памяці"). Зразумела, гэта толькі невялікая часцінка таго, што з беларускай паэзіі ў розны час прапанаваў Стэпанюк украінскаму чытачу. Але і яна, гэтая часцінка, дае ўвогуле неблагое ўяўленне і пра беларускую паэзію, і пра творчыя магчымасці самога паэта-перакладчыка.

Завяршае кніжку своеасаблівы фоталетапіс жыцця і творчасці Барыслава Стэпанюка. Тут зноў жа некалькі яскравых фотафактаў непасрэдных кантактаў паэта з беларускімі літаратарамі — Максімам Танкам (у Баку на юбілеі Насімі, 1973), з А.Пысіным (у сяле Пяскі на Чарнігаўшчыне, на радзіме П.Тычыны, 1983)...

...На Украіне разгар жніва — у ліпені. Няхай яшчэ доўга-доўга багаты творчы плён прыносіць Барыславу Стэпанюку яго сінявокі ліпень.

**Вячаслаў РАГОЙША**

**У ВОЛЬНЫ ЧАС**

# З днём нараджэння, заапарк

Незлічоную колькасць жывёл можна назіраць падчас вандровак па свеце, але такая унікальная магчымасць не кожнаму па кішэні. І ўсё-ткі пабачыць разнастайнасць жывёльнага свету магчыма, прычым за... адзін дзень. "Дзе?" — запытаецеся вы. Канечне ж у сталічным заапарку. Сёння ён мяняе свой воблік. У планах — не толькі пашырэнне тэрыторыі, але і стварэнне ненатуральных ландшафтаў у вальерах экзатарыума.

Да пачатку 80-х гадоў у сталіцы заапарка наогул не было. І толькі дзякуючы энтузіястам ды фундатарскай падтрымцы "МАЗа" ля скрыжавання вуліц Ташкенцкай і Убарэвіча з'явіўся куток, дзе можна сустрэцца з "братамі меншымі". Старая частка заапарка, пабудаваная "МАЗам", займала каля 2,5 гектара. А на працягу двух апошніх гадоў плошча пашырылася яшчэ на 2,2 гектара, — тут размясціліся адкрытыя вальеры з экзатычнымі жывёламі, ветэрынарны цэнтр, гаспадарчыя будынкі. "З цягам часу аднаўленне закране ўвесь комплекс, — кажа загадчык асветніцкага цэнтра Мінскага заапарка Наталля Паршута. — Ужо ў гэтым годзе плануецца пачынаць новае будаўніцтва. Заапарк будзе яшчэ большым і зойме 14 гектараў. Яго будучыя маштабы можна ўявіць нават сёння — тэрыторыя ўжо абгароджана". У новай частцы заапарка плануецца размясціць гаражы, тэхнічныя і іншыя аб'екты. Яшчэ з мая на тэрыторыі заапарка працуюць буравыя ўстаноўкі для стварэння экзатарыума. "Гэта вялікае купалападобнае памяшканне, дзе будуць створаны ўмовы для экзатычных жывёл, максімальна набліжаныя для натуральнага асяроддзя іх засялення", — патлумачыла Наталля Анатольеўна. Праект падрыхтаваны, спецыялісты ўжо некалькі разоў наведвалі замежныя заапаркі, каб не толькі ацаніць іх, але і прыдумаць нешта новае для Беларусі.

"У нашым заапарку жывуць захапленнем гледзячы на птушак каля пруда. — Тут і збіраецца большая частка наведвальнікаў. І



два кайманавых кракадзіла. Але мы не маем магчымасці паказаць іх наведвальнікам з-за адсутнасці адпаведнага памяшкання", — паведаміла загадчыца асветніцкага цэнтра. Між тым, паводле яе слоў, са з'яўленнем экзатарыума жыхары горада і госці змогуць сустрэцца з экзатычнымі жывёламі нават зімой, паколькі ў новай цудоўнай пабудове змесціцца фауна Паўднёвай Амерыкі з адпаведнымі штучна зробленымі кліматычнымі ўмовамі. Аднак, гэты праект пакуль існуе толькі ў каляровым макеце.

Сёння на тэрыторыі Мінскага заапарка знаходзіцца 162 віда жывёл. Сярод іх 42 віда — млекакормячых, 48 — птушак, 54 — рэптылій. "Лепш за ўсё прадстаўлены водаплаваючыя птушкі. У нашым заапарку зімуюць лебедзі. А бусел Журка наогул пачувае сябе гаспадаром на ўсёй тэрыторыі заапарка. З цёплалюбівых птушак можна пабачыць мандарынку, султанку каспійскую, пелікана, — расказвае Наталля Анатольеўна, з мне самой падабаецца знаходзіцца ля вады, ведаеце, вельмі супакойвае...".

Шмат людзей па традыцыі можна сустрэць і каля клетак з малпамі. Яванскаму макаку Шыку два з паловай гады, ён — любімчык публікі, гарэзліва забаўляецца на вачах вясёлай малечы. А японскія макакі Сэм і Ляля (брат з сястрой) вельмі любяць купацца і ніколі не адмаўляюцца ад ласунка.

Леапард Леда не часта радуе наведнікаў сваёй прысутнасцю. Але калі выходзіць "на людзі", дык грацыёзнасцю і шармам здолее скласці канкурэнцыю не адной топ-мадэлі.

Не менш паважна паводзіць сябе і зубр Сан Саныч, якога прывезлі ў заапарк з Белавежскай пушчы. Нягледзячы на свае памеры і грозны выгляд, у жывёлы вельмі добры характар, зубр з задавальненнем выходзіць, калі яго ласкава клічуць, і ніколі не адмаўляецца ад морквы, як з рук Наталлі Анатольеўны, так і з рук гасцей.

У адной клетцы я пабачыла чорнага грыфа побач з... карлікавым пеўнікам. "Аднойчы нехта з наведвальнікаў заапарка падумаў, што мы спецыяльна пасадзілі пеўніка ў клетку на... абед грыфу, — расказвае Наталля Паршута. — Мужчына нават пачаў адбіваць замок, каб вызваліць маленькую птушачку. Ён і ўявіць сабе не мог, што грыф і пеўнік — лепшыя сябры. Калі заатэхнікі ўваходзяць у клетку, грыф не падпускае іх да свайго сябра, каб не пакрыўдзілі".

Своеасаблівае цыркавое шоу можна назіраць у клетцы з варонамі па мянушцы Гіём і Барон. Так, паводле слоў Наталлі Анатольеўны, птушкі заўсёды свараццa, ладзяць разборкі. Пачынаецца ўсё так: адна ляжыць на спіне, другая скача вакол, потым пачынаюць біцца, цягаць адна адну за хвост... Словам, цырк ды і толькі.

Варта адзначыць, што на тэрыторыі Мінскага заапарка ёсць і аднаўленая калекцыя-выстава "Таямніцы небяспечнага свету", на якой прадстаўлена больш за 50 відаў рэптылій. "Бясспрэчна, выстава заслугоўвае вялікай увагі", — падкрэсліла Наталля Паршута. Жанчына пераканана, што тут пануе зусім іншая атмасфера, уласцівая толькі таемнай дзікай прыродзе...

І сапраўды, перакрочыўшы парог будынка, дзе знаходзяцца рэптыліі, нібыта апынаешся ў ізаляванай прасторы, цішыня якой насцярожвае і адначасова вабіць; так акунаешся ў дзіўны свет, поўны загадак і небяспекі. Тут можна заўважыць сетчатага пітона, даўжыня якога дасягае шасці метраў, а вага дзевяноста кілаграмаў. Гэта самы вялікі пітон у свеце. Ён можа вырасці да дванаццаці метраў. Жыве гэтая "экстрымальная" жывёла ў Паўднёва-Заходняй Азіі, адрозніваецца непрадказальным і кепскім характарам, можа нават напасці на людзей.

Ідзём далей. У другім тэрарыуме — габонская гадзюка. Яна адрозніваецца яскравай афарбоўкай, вялікімі зубамі і смяротнай атрутай. Побач — макасінавы шчытамордзік; гэты від займае першае месца ў ЗША па колькасці ўкусаў...

Каб не расслабляліся, на кожным тэрарыуме прылеплены фотаздымак, на якім паказаны вынік укусу экзатычных "экстрымалаў". Як правіла, укус прыводзіць да летальных зыходаў. Аднак, наведваючы выставу, не трэба баяцца, што аднойчы змяя выпаўзе і... Два заатэхнікі і спецыяліст па земнаводных і рэптыліях Андрэй Максімаў адказваюць за тэхніку бяспекі і ўважліва за ўсім назіраюць. Усе тэрарыумы адпавядаюць патрабаванням і нормам, якія ў свой час былі распрацаваныя ў Маскоўскім заапарку. Так, у рамы ўстаўлена спецыяльнае шкло, якое не б'ецца, а на дзверцах — трывалыя замкі. Атрымліваецца, што дакрануцца да дзікай прыроды... бяспечна, але толькі ў заапарку. Як сказала мая субяседніца, прыходзяць сюды, каб атрымаць станоўчыя эмоцыі і добры настрой, а таксама правесці свой вольны час у "гутарцы" з жывой прыродай.

Варта адзначыць, што сталічны заапарк ладзіць разнастайныя святы. Так, 9 жніўня адсвяткавалі 20-годдзе з дня яго заснавання. А напярэдадні юбілею — 7-га і 8-га жніўня — прайшло тэатралізаванае шоу.

**Марына ЦЯРЭШЧАНКА,**
***Фота Мікалая АНІШЧАНКІ***

**ЁСЦЬ ПРАБЛЕМА**

# Перш чым узяць сабаку, трэба сустрэцца з ім вачыма

Праблема безнаглядных жывёл, што бадзяюцца па вуліцах гарадоў і вёсак, існуе не толькі ў нашай краіне, але і за межамі, праўда, не ў такіх маштабах, як у нас...

Аднак улады, і асабліва ў сталіцы, робяць многае, каб нейкім чынам вырашыць гэтае пытанне. Так, згодна рашэнню Мінгарсавета ад 1 студзеня 2002 года быў створаны пункт прыёму і часовага ўтрымання жывёл, які знаходзіцца на Гурскага, 42. "Кожны чалавек, які мае сабаку, павінен пералічваць невялікі падатак на ягонае ўтрыманне, 85 працэнтаў ад якога паступае ў бюджэт. Менавіта пры дапамозе гэтых сродкаў быў пабудаваны наш пункт; ён знаходзіцца ў структуры "Спецкамунаўтатранса", — паведаміў начальнік пункта Леанід Ермалаеў.

Бадзяжныя каты і сабакі не толькі не ўпрыгожваюць наш горад, але і з'яўляюцца патэнцыйнымі пераносчыкамі разнастайных захворванняў. Акрамя таго, галодныя і злыя сабакі становяцца небяспечнымі. Падобных, раззлаваных чацвераногіх гасцей за тыдзень у пункт паступае два — тры. І толькі адзін з іх, як правіла, знаходзіць гаспадара.

"Мы ўсе разам з мінчанамі так чакалі, калі пачне працаваць пункт прыёму і часовага ўтрымання жывёл... Ведаеце, калі паступіў наш першы сабака? Сёлета, 16 лютага, — згадвае Леанід Уладзіміравіч. — Раней нашы супрацоўнікі займаліся адловам бадзяжных жывёл на вуліцах сталіцы і ўсыплялі іх (гэта былі пераважна непародзістыя сабакі без ашыйніка". Тым не менш, — жаліцца суразмоўца, — народ наш такі: нават любімца сям'і, якога-небудзь непародзістага пса, гаспадары маглі выпусціць на вуліцу. Маўляў, пагуляе і прыйдзе. А калі такі сабака не зарэгістраваны, ды яшчэ без ашыйніка, трапляў раптам у сабачую зграю, дык нічога дзіўнага, што ён у выніку мог аказацца ў нашым пункце.

"Пункт прыёму і часовага, падкрэсліваю, утрымання жывёл дазваляе пазбегнуць трагізму, як гэта было раней, калі жывёл проста ўсыплялі... Справа ў тым, што кожны сабака ці кошка, якія трапляюць да нас, знаходзяцца тут на працягу як мінімум пяці сутак. За гэты час любы гаспадар можа знайсці свайго любімца. У іншым выпадку пухнаты можа быць запатрабаваны новымі гаспадарамі", — растлумачыў Леанід Ермалаеў.

Аднак, часцей за ўсё гаспадар не знаходзіцца. Да прыкладу, сабака па мянушцы Чак правёў у пункце больш за месяц. Яго паказвалі па тэлебачанні, пісалі ў газетах, але сапраўдны гаспадар, на жаль, не знайшоўся. Сабака трапіў у іншыя рукі. Варта адзначыць, што на ягоным ашыйніку была напісана мянушка, і гэта сведчыць, што жывёлу проста выкінулі на вуліцу. Статыстыка гаворыць і пра тое, што каля 80 працэнтаў жывёл, перш чым трапіць у клетку, жылі ў гарадскіх кватэрах. Доказам таму з'яўляюцца ашыйнік і... хатнія манеры. Не сакрэт, што сёння гаспадары кідаюць сваіх "любімцаў", калі тыя шкодзяць мэблю, ці ў кагосьці праяўляецца алергія на поўсць, або ў сям'і з'яўляецца дзіця, ды і з банальнай нагоды — надакучыла.

"Вельмі шкада, калі так атрымліваецца. Наогул лічу, што сабака ў клетцы — гэта нонсенс", — з сумам адзначае Леанід Уладзіміравіч. І пачынае расказваць яшчэ пра адзін выпадак з практыкі. Не так даўно дзве дзяўчынкі прыйшлі, выбралі сабе сабаку, у пункце начапілі на яго ашыйнік і аддалі... А праз некалькі гадзін супрацоўнікі міліцыі прывялі пса назад. Растлумачылі, што знайшлі яго на вуліцы каля аднаго магазіна. "У той час унутраны голас нібыта казаў мне, што сабака хутка вернецца. Так і адбылося. Таму я з сумам развітваюся з дружалюбнымі жывёламі, якія невялікі час былі насельнікамі нашай установы. Але, нягледзячы ні на што, адчуваю маральнае задавальненне, калі ў іх з'яўляецца гаспадар", — прызнаецца Леанід Ермалаеў.

Каб згубленую хатнюю жывёлу было лягчэй знайсці, яна павінна прайсці рэгістрацыю, гэта значыць, мець нумарны знак і рэгістрацыйны ліст (як сведчаць спецыялісты, рэгістрацыю прайшлі толькі каля 30 працэнтаў жывёл). Але, паводле слоў начальніка пункта прыёму і часовага ўтрымання жывёлаў, ягоныя супрацоўнікі не могуць паўплываць на такія абставіны, паколькі гэта справа міліцыі, ЖЭКа і, вядома ж, гаспадароў.

Варта адзначыць, што ў пункце прыёму і часовага ўтрымання жывёлаў на сённяшні дзень знаходзіцца каля 160 — 180 сабак і 60 — 80 катоў. У адкрытай вальеры 85 будак, кожная з якіх прызначана для аднаго насельніка. Супрацоўнікі дадзенай установы спадзяюцца, што братам нашым меншым усміхнецца ўдача і іх знойдуць калі не сапраўдныя гаспадары, дык новыя, але не горшыя. " Я ніколі не навязваю жывёлу. Чалавек, які хоча набыць сабе сабаку, павінен сустрэцца з ёй вачыма. Калі ў такі момант з'яўляецца нейкая сімпатыя, тады, безумоўна, кантакт наладзіцца", — прызнаецца Леанід Уладзіміравіч падчас нашага шпацыру паміж клетак.



Шчыра кажучы, наведванне такіх месцаў — відовішча не для чулых і слабанервовых. З кожнай клеткі глядзяць сумныя, мокрыя ад слёз вочы, нібыта просяць: забяры мяне... Яны падобныя на маленькіх безабаронных дзяцей, якіх кінулі бацькі. Сэрца крывёю абліваецца, калі глядзіш на іх: хочуць нешта вымавіць, а не могуць.

Сабака — такую... мянушку носіць адзін з псоў. Нягледзячы на тое, што зусім нядаўна ён перанёс аперацыю, з-за павагі да Леаніда Уладзіміравіча, Сабака падняўся, каб павітаць майго суразмоўцу, калі той адчыніў клетку. Сапраўды, адносіны ў яго з падапечнымі неардынарныя. Тыя яго слухаюцца; калі начальнік просіць не гаўкаць, сабакі замаўкаюць. Покуль мы гуляем паміж клетак, на кухне насельнікам пункта рыхтуюць ежу; мясныя адыходы, з якіх вараць булён, пастаўляе прыватная пельменная фабрыка. Ды і са Слуцка паступае спецыяльны камбікорм.

"Калі б усе справы вырашаліся на "выдатна", магчыма, праца падабалася б больш. Але я разумею, што далёка не ўсё залежыць ад мяне. Часам, гутарка з братамі нашымі меншымі, зносіны з імі прыносяць мне большае задавальненне, чым... зносіны з людзьмі", — прызнаецца ён.

На сёння найбольш вядомыя два грамадства аховы жывёл — "Заасвет" і "Ратаванне". Першае бачыць вырашэнне праблемы бадзяжных жывёл ва ўвядзенні новых ці змяненні існуючых законаў аб утрыманні і продажы жывёл, а таксама выступае за перадачу пункта прыёму і часовага ўтрымання жывёл пад патранат Міністэрства прыроды і аховы навакольнага асяроддзя.

Тады як "Ратаванне" займаецца практычнай дзейнасцю. Нядаўна грамадства пералічыла грашовыя сродкі на стэрылізацыю жывёл. Лічыцца, што так можна абмежаваць іх колькасць; гэты спосаб даўно і паспяхова выкарыстоўваецца ў іншых краінах.

А вось паменшыць колькасць жывёл, што трапілі ў пункт часовага прытулку, можа кожны чалавек, той, хто будзе любіць і даглядаць ката ці сабаку. Пункт працуе штодзень, акрамя нядзелі. Калі ўзніклі пытанні, то перш чым ехаць, можна затэлефанаваць па нумарах: 251- 96 - 59 або 251- 96 - 79. Бо, як кажуць, добрая справа адплаціцца...

**Марына ЦЯРЭШЧАНКА**

# Ўратаваць чалавека...

## (а мо і сапраўды так?)



Іншы раз здараецца ў жыцці так, што адзіная сустрэча з чалавекам надоўга застаецца ў памяці. Асабліва балюча і крыўдна становіцца на душы, калі неўзабаве пасля такой сустрэчы ваш знаёмы адыходзіць у нябыт да нашых продкаў.

Вось пра адну такую сустрэчу я і хачу расказаць. Гутарка пойдзе пра вядомую нашу паэтэсу Яўгенію Янішчыц. Многія, вядома ж, толькі пасміхнуцца, чытаючы гэтыя радкі. Бо адны ведалі яе не адзін дзесятак гадоў, другія сябравалі, трэція разам вучыліся, а хто нават і прыходзіў на спатканне... А тут, падумаеш, адзіная сустрэча. Ды пра што там можна расказаць?! Чытаць — толькі час марнаваць! І хоць бы аўтар быў вядомы.

Усё гэта так... Але не спяшайцеся перагортваць старонку.

А сустрэча тая з Яўгеніяй Іосіфаўнай адбылася ў рэдакцыі часопіса "Маладосць", дзе яна ў той час працавала. Праўда, адразу ж хачу дадаць, што кожны мой прыход у любую рэдакцыю для мяне вельмі вялікая мука і хваляванне.

Але тады, а было гэта ў лістападзе далёкага цяпер 1988 года, я зайшоў у рэдакцыю асмялелы, бо рыхтавалася да друку асобнай невялікай кніжкай у бібліятэцы часопіса "Маладосць" мая аповесць "Запіскі халасцяка". Праўда, аповесць была крыху велікаватая, патрэбна было яе крыху скараціць. Вось я гэтым займаўся: карпеў над рукапісам, кідаючы зрэдку позірк на знаёмую паэтку. Так-то я пра яе ведаў, нават кнігу вершаў прыдбаў "Пара любові і жалю". Марыў нават, каб неяк набрацца смеласці, падысці да паэткі і папрасіць надпісаць на памяць. Бо яе вершы падабаліся не толькі мне, але маёй маці і ўсім аднавяскоўцам.

У рэдакцыйным пакоі на той час нікога не было. Уладзімір Саламаха, які быў рэдактарам маёй кніжкі, працаваў у суседнім пакоі.

А ў горадзе ўбралася ў сілу і ваўсю гаспадарыла восень. Шапацеў па аконным шкле дожджык, вятрыска зрываў апошняе пажоўклае лісце. На вуліцы стаяла халадэча, макрынь...

Яўгенія Іосіфаўна перачытвала чыесьці вершы, ды раз-пораз кідала задумённы позірк за акно, бо сядзела побач з ім.

І вось калі ў чарговы раз я вырашыў зірнуць на паэтку, то ўбачыў, як па яе твары мільганула жудасна-злаславая ўсмешка з трагічным адценнем. У канцы яе, па рашучым выразе на твары, можна было зразумець, што паэтэса прыняла ў той момант адзінае рашэнне, ад якога яна ўжо не адступіцца.

Я хуценька схіліўся над рукапісам, бо адчуў на сабе яе позірк... Праз якую хвіліну не вытрываў — зірнуў і... Яна ўсё яшчэ працягвала глядзець на мяне. У яе позірку была вінаватая запытальная разгубленасць. Магчыма, яна здагадалася, што я прачытаў яе патаемныя думкі.

І адразу ж я адчуў нядобрае... Быццам хтосьці нашэптваў мне: "Яна на краі пагібелі! Але ты можаш яшчэ ўратаваць яе..." І да таго шчымліва і жалобна стала на душы, што я не змог нават чытаць свой рукапіс. Але ўратаваў мяне Валодзя, мой рэдактар. Зайшоў якраз у пакой. Я адразу ж сказаў яму, што ў мяне не атрымліваецца скарачэнне, быццам усё патрэбна. Ён згадзіўся ўсё зрабіць сам, а я расчырванелы, быццам ашпараны кіпнем, выскачыў пад дожджык на вуліцу. Воля!

Каб астыць, нават пастаяў крыху пад дожджыкам, а пасля сіганула ў падземны пераход. І тут ледзь не сутыкнуўся з маладой, але даволі ўжо вядомай паэткай. Калісьці, ці не сем гадоў таму, былі разам на семінары маладых пісьменнікаў. Яна тады юная была, а мне пад сорак бралася.

І пакуль я сноўдаў па Чукотцы, яна паспела выдаць тры зборнікі вершаў.

Я адразу ж і распавёў ёй пра свае патаемныя і трывожныя думкі наконт Янішчыц.

Яна ўскінула на мяне свае вялікія шэрыя вочы і ўскрыкнула: "Ты што?! Зусім ужо здурнеў на сваёй Чукотцы?! Ды ў яе ныркі хворыя! Пра гэта ўсе ведаюць!"

Не паспеў я і слова сказаць у адказ, як яна порстка кінулася ад мяне...

Я пастаяў з хвіліну ў поўнай разгубленасці, а пасля няспешна пасунуўся ў метро. Прыехаў у сваю халасцяцкую аднапакаёўку, распрануўся, прысеў ля акна.

Сцябаў драбнюткі дождж, няспешна і з імпэтам выстукваў па аконным шкле сваю восеньскую мелодыю. Доўга так сядзеў, бо думкі былі самотныя.

Урэшце супакоіў сябе тым, што, магчыма, я і сапраўды памыляюся. Але ж вельмі мне хацелася расказаць пра свае здагадкі самой Яўгеніі Іосіфаўне.

Але я не паспеў гэта зрабіць... Цяпер вось каюся, а тады... Задоўга вагаўся, думаў, разважаў, як падысці да яе, упрасіць на сустрэчу. Карацей — не хапіла рашучасці...

А літаральна праз тры дні яе не стала... Белакрылай птушкай, як трапна яе хтосьці назваў — палескай ластаўкай, адляцела Яна ў свой апошні вырай...

Калі я пра гэта ўсё даведаўся, то дзве ночы не мог заснуць. Вінаваціў толькі сябе. Бо я, і толькі я, меў магчымасць уратаваць яе ў апошні момант, але не змог гэта зрабіць. Чаму?

Шукаю на гэта адказу нават і па сённяшні дзень. А дзесьці так праз тыдзень зноў убачыў тую ж паэтку. Не хацелася з ёй гутарыць, і я вырашыў моўчкі прайсці міма яе, але не атрымалася. Яна сама затрымала мяне.

"Ужо і не вітаешся", — прамовіла з усмешкай.

"Ты ж ведаеш, якое гора ў нас. І каб не ты, то я ўратаваў бы яе..."

І тут яна зноўку накінулася на мяне. І што на яе найшло?! Я нават спалохаўся.

"Ды што б ты мог зрабіць?! Чым суцешыць?! Пра што вёў бы гаворку з такім талентам, калі сам людская апавяданні напісаць не можаш! Выратавальнік знайшоўся!

Тут я не вытрымаў, моўчкі павярнуўся, і хуткімі крокамі, ледзь не подбегам, падаўся ад яе...

Быў у мяне тады шасцімесячны паўночны водпуск (працаваў у старацельскай арцелі), і днямі сядзеў у сваёй кватэры, нікуды не выходзіў, бо нясцерпны цяжар быў на душы. Адна думка днём і ноччу сядзела ў галаве: "Ты мог уратаваць Яе!"

Аднойчы прысніўся нават мне нейкі страшыдла: вялізны, кудлаты, з іклямі. Ён рагатаў на ўвесь голас, злаславіва пасміхаўся, паказваў на мяне доўгім валасатым пальцам з кіпцюром і крычаў: "Душа яе мая! А ты саўдзельнік забойства! Ха-ха! Дапамог мне!"

Я прачынаўся і ўжо да самай раніцы сон не браў. Так, я не ўратаваў яе, бо быў, як і ўсе беларусы, сарамлівым і даверлівым. І смеласць тут ні пры чым. Не хачу сябе хваліць, але былі ў мяне такія выпадкі, калі даводзілася выпрабоўваць сябе страхам. Як казаў калісьці мой дзед: "Пакажы, чаго ты варты!"

Аднойчы дабіраўся я са сваім геалагічным атрадам на трох трактарах з санямі на нашу базу. І трэба было з дзесятак кіламетраў праехаць па яшчэ тонкім лёдзе праліва Лонга. Трактарысты адмовіліся ехаць. І тады я сам сеў за рычагі першага трактара. І ўжо ў самым канцы, калі наехаў на гурбу снегу, той праваліўся... Праўда, секунд з дзесяць, як бы завіс на гусеніцах, я паспеў выскачыць, і ён тут жа праваліўся на дно Паўночнага акіяна.

Страх тады быў, але я памятаў словы аднаго лётчыка, які прайшоў усю вайну: "Будзеш баяцца — загінеш!" Я ўсё гэта да таго, што ў кожнага з нас сваё прызванне ў жыцці.

Магчыма, я і сапраўды дрэнна пішу, асабліва артыкулы. Гэта, дарэчы, менавіта так. Бо даваўся крыху папрацаваць нават у газеце, пад кіраўніцтвам Вольгі Іпатавай. То яна аднойчы сказала: "Ты такі тупы, як сібірскі валёнак! Такія людзі жывуць доўга!"

Вось і аказваецца, што кожнаму трэба займацца сваёй справай. Я, у адрозненне ад нашых пісьменнікаў, у якіх адна біяграфія: школа, інстытут, рэдакцыя, перабраў мноства прафесій. Быў грузчыкам, падрыўніком, геолагам, экскаватаршчыкам, валіў і сплаўляў лес, спускаўся ў шахту... Стаў нават членам нашага творчага Саюза, выдаў чатыры кнігі прозы, але сапраўдным пісьменнікам так і не зрабіўся.

Праўда, адна асаблівасць усё-ткі ў мяне ёсць: гэта прадчуванне таго, што вось гэтага чалавека трэба тэрмінова ратаваць, бо штосьці з ім можа здарыцца.

Так было і з Барысам Сачанкам. Убачыў яго на прыпынку праспекта Машэрава. Была вясна, цяплынь. Ён цудоўна выглядаў: маладжавы, прыгожы... А думка скок у галаву: "Бачыш яго ў апошні раз!" Адагнаў яе, нават пасміхнуўся, бо я па далінах шастаю, шукаю золата, а ён у рэдакцыі энцыклапедыі. Вось і падумаў, што наўрад ці яшчэ калі і сустрэну. А праз які час ён памёр, ды яшчэ прама за рабочым сталом... І з Рубанавым прыкладна так у мяне было...

Для чаго я гэта ўсё пішу? Зараз паспрабую адказаць. Толькі за мінулы год у нашай рэспубліцы зарэгістравана тры тысячы пяцьсот самагубстваў. Уяўляеце сабе такую лічбу?

І з-за чаго ўсё гэта адбываецца? Цяжка адказаць. Прычыны розныя: тут і наша бядота, душэўная пустэча, няўвага да душы маладых людзей і падлеткаў, наша абыякавасць.

Вось і ў Малінаўцы некалі школьніцу бацькі не адпусцілі на дыскатэку, то яна і сіганула з даху дзевяціпавярхоўкі... Але, калі так можна сказаць, яна была "падрыхтавана" родзічамі яшчэ раней, многа год таму.

А дзве сястрычкі, што ўзяўшыся за ручкі таксама пайшлі з жыцця, бо маці больш увагі ўдзяляла айчыму, чым ім. Хачу дадаць: не крыўдзілі іх, кармілі, апранялі, а душэўных размоў не вялі. Дзяўчынкі засталіся сам-насам са сваімі думкамі і турботамі.

І тут мне хочацца звярнуцца да нашых дэпутатаў і чыноўнікаў з Міністэрства адукацыі. Настала пара ўвесці ў школах прадмет: "Гісторыя рэлігіі". І адразу ж хачу сказаць, што ніхто і нікога не будзе прымушаць верыць у Бога і хадзіць у царкву. Дзеці самі зробяць свой выбар. Але ва ўсякім разе яны будуць ведаць, што самагубства — самы вялікі грэх на зямлі. Навучацца з прытчаў Хрыста, што трэба як мага больш рабіць дабра людзям. Навет вучоныя даказалі, што думка мае энергетычную сілу, вось... Пажадаеш каму зла, то яно да цябе і вернецца ды яшчэ ў выглядзе цяжкай хваробы. А зробіш больш дабра, і табе, як казаў Усявышні — "воздастся".

А зайдзіце ў Эрмітаж. Там большасць карцін на рэлігійную тэматыку, з біблейскіх міфаў.

У заключэнне хачу сказаць: нам трэба ратаваць усіх, а не толькі членаў Саюза пісьменнікаў. Хоць, нашых творцаў мне вельмі шкада. Я калісьці прапаноўваў В. Іпатавай завесці пасаду "абходчыка" нашых пісьменнікаў. Я сам мог бы з радасцю зайсці да кожнага, пагутарыць, высвеціць балючыя старонкі жыцця, дапамагчы...

Супрацоўнікам нашых рэдакцый трэба больш уважліва адносіцца да нашых пісьменнікаў. Хочацца тут сказаць некалькі слоў пра Ніну Кавалёву. Яна прыкута воляй лёсу да ложка. А якія цудоўныя піша вершы! Чаму б супрацоўнікам рэдакцыі не напісаць ліст Ніне Дзмітрыеўне, каб тая даслала свае творы. Вы можаце супярэчыць, што рэдакцыя заваленая вершамі, але трэба часцей рабіць нечаканыя выключэнні. І тады мы не будзем заўчасна губляць сваіх сяброў і знаёмых людзей.

Бо сапраўдны талент даецца чалавеку ад Бога, і зберагчы яго святы абавязак кожнага з нас.

Мінаюць гады... Ужо даўно адпачывае на балконе мой заплечнік і старацельскі латок. Хаця, каб не развал Саюза, то змог бы яшчэ і цяпер пабрэндаць год-другі па ручаях і далінах далёкай Калымы і Чукоткі.

І кожны вечар, асабліва ў восеньскія дні, калі я ляжу на ложку, а ў пакой няспешна запаўзае змрок, перад маімі вачыма паўстае постаць Яўгеніі Іосіфаўны...

Цяжкі грэх колькі год нясу ў сваёй душы. Каюся перад усімі жывымі і Усявышнім, што не змог у свой час уратаваць таленавітую паэтэсу.

Але жыццё працягваецца. Жывём толькі адзін раз, а гады мінаюць імгненна. Дык будзем берагчы адзін аднаго і працягваць руку тым, хто прытаміўся фізічна і духоўна на калдобістай дарозе жыцця...

**Павел САВОСЬКА**


ЗАХАРАВА, 19



**Пішыце на адрас: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19, Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва"; e-mail: minsk@lim.by**

*Адрас у Інтэрнеце — www.lim.by*

## СЕН-ЖОН ПЕРС:

*"І нарэшце старонка, на якой ужо нічога не пішацца."*






**Васіль САХАРЧУК.** *"Мой вечны бор"* (вершы, паэмы, пераклады; Мінск, "Мастацкая літаратура", 2004, рэдактар В.Шніп, 1200 экз., 141ст.)

Амаль адначасна пабачылі свет кніжкі двух сяброў — **"Голас"** Васіля Гадулькі і **"Мой вечны бор"** Васіля Сахарчука. Першая — у РВУ "Літаратура і Мастацтва", другая — у "Мастацкай літаратуры". В.Сахарчук, які пасля скону В.Гадулькі ледзь не дзесяць гадоў стукаўся ва ўсе дзверы, каб выдаць спадчыну сябра, не змог і сам выдаць уласны памянёны зборнік пры жыцці... (І ёсць жа нейкая непадуладная нам незямная сіла, волю якой да Васілёвага **"вечнага бора"** дакаціўся гадулькаў **"голас"**, пераадолеўшы перашкоды складальнікаў і рэдактараў: на 112 старонцы кніжкі В.Сахарчука чамусьці апынуўся санет В.Гадулькі са 114 старонкі ягонага зборніка. Якраз перад вершам "Прычасце", прысвечаным памяці самога В.Гадулькі. Сябры і тут не прамінулі сустрэцца, не зважаючы ні на што...)

Выцыганіўшы ў В.Шніпа *"сігнал"*, усю ноч прасядзеў над кніжкай. Гэта было *ўзвышанае* чытанне. Каб *супераўжываць* такія вершы, трэба **дажыць** да іх разумення. Да таго ж адкрылася страшная карціна: аказваецца, ужо тады, яшчэ ў рукапісе, паэт задумваў гэтую сваю кніжку як апошнюю і развітальную. За шэсць-сем гадоў да свайго заўчаснага трагічнага адыходу! Як жа трэба было жыць, ведаючы пэўнасць **адмеранага сабе часу**, набліжаючы яго кожным сваім крокам і кожным пражытым днём...

Васіль не быў, як прынята казаць, *прапашчым* чалавекам ці адным з выклятых паэтаў. Не. Наадварот, ён быў валявым і найвялікшым жыццялюбам, як і ўсе тыя, што дачасна вызнаюць свае магчымасці і свой кон...

Кніжка адпачатку (ад першага верша) асабова-прарочая:

*Асядлайце мне, хлопцы, такога каня,*
*што ні разу не быў пад сядлом.*
*Мо на ім дацягну я да светлага дня*
*ці памру пад яго капытом.*

Яшчэ Алесь Пісьмянкоў папярэджваў не пісаць падобных радкоў (*"глядзі, браце, спраўдзяцца!"*), сам іх *чамусьці* пішучы...

Не ў "ЛеГАЛізацыі" трэба пісаць пра гэтую кніжку. Чалавеку, які адважыцца судзіць пра яе (і **судзіць** яе аўтара), неабходна глыбокае дыханне, доўга-далёкі занебакрайны пагляд, адчуванне прыцягальнай бездані нябёсаў над галавой і зямной няпэўнасці пад нагамі... (І ўсё ж спадзяюся, што такі чалавек знойдзецца.) Працытую яшчэ толькі адзін верш з зачыну кніжкі, ды пакіну вас сам-насам з яго духам:

### ІМГЛІСТЫ БЕРАГ

*Усё часцей бярэ ў цянёты стома.*
*І адчуваю — тонка, падсвядома —*
*яе прычыннасць і яе вытокі.*

*Імглісты бераг бачыцца з аконца.*
*Шлях да яго мне асвятляе стронцый*
*і набліжае вырай мой далёкі.*

*Няма адхлання ад паклонаў кону.*
*З яго неўсведамлёнага палону*
*не вырвацца, нічым не адкупіцца.*

*Гляджу на свет спакойнымі вачыма.*
*Гадзіннік цікае. Плывуць хвіліны міма.*
*І ўсё часцей імглісты бераг сніцца.*

*Там вечны сон: ні стрэчы, ні расстання.*
*Там золак неадрозны ад змяркання.*
*Пра гэта знае той, хто не прачнецца.*

*Усходзіць ціха сонца над зямлёю.*
*Паветра пахне ружаю лясною.*
*Ах, Божа мой, як моцна сэрца б'ецца!*

(Хіба можна пасля гэтага чытаць, скажам, такія інфантыльна-іранічныя радкі, як "З чаго пачынаецца Жодзіна?" Тым больш, што пачынаецца яно з таго ж, з чаго пачынаецца і Жыццё...)

Але мы тут — на супрацьлеглым **яго** беразе... "MEMENTO MORI" (помні пра смерць) — верш пад такім назовам выдрукаваны ў кніжцы наступным пасля **ІМГЛІСТАГА БЕРАГА...**




**Усевалад ГАРАЧКА.** *"Даты"* **(вершы; Мінск, "Мастацкая літаратура". 2004, серыя "Дэбют", рэдактар В.Шніп, 1000 экз., 62 ст.)**

Выдаўшы ўслед за першай сваёй логвінаўскай кніжачкай *"Пралетарскія песні"* гэтую — **"Даты"**, У.Гарачка своечасова ўраўнаважыў сваё міжвольна пахіснутае ў маіх вачах паэтычнае рэнаме. Праўда, назоў і гэтага зборніка маладой іранічнай публікай таксама можа ўспрымацца неадназначна. А серыя *"Дэбют"* і ўвогуле выглядае нераўнуючы як запозненае аўтарскае тлумачэнне несапраўднасці альбо выпадковасці тых сваіх — насамрэч першых — пралетарскіх песень, некаторыя з якіх ён ужо тады, мажліва, пад "Даты" і задумваў... Нездарма ж больш пяці вершаў фігуруюць у абодвух гэтых зборніках. Што праўда, не горшых.

Адным словам, для мяне яшчэ адна новая кніжка У.Гарачкі, як адваротны бок аднаго медаля, ці — хто памятае? — дваякі твар сусветнавядомага французскага міма Марселя Марсо.

*Нахілюся папіць —*
*На вадзе*
*Родны твар калышацца:*
*Вочы няясныя,*
*Вусны дрыжаць.*
*Не згадаць таго,*
*Што вада вымыла,*
*Сонца выпекла.*
*Усміхнуся сабе:*
*Не згадаць.*

Паэт, у сваім сімвалічна-крызісным трыццацішасцігадовым узросце, знаходзіцца ў бесперапынным пошуку сэнсу зямнога жыцця і паднебнай паэзіі, ды, як мне падаецца, ён, нібы той геолагаразведчык, нарабіўшы процьму свідравін на шырокім літаратурным радовішчы, так пакуль і не здолеў дакапацца да свайго самага запаветнага пласта... Імпульсіўнасць, боязь застацца сярод сваіх літаратурных равеснікаў у ар'ергардзе авангарднага мастацтва, пагоня за відочным, даступным і экстравагантным перашкаджаюць яму заглыбіцца на асабістым лёсе і засяродзіцца, няхай і на традыцыйным, але сутнасным. Аднойчы, захапіўшыся вершаваным наватарствам А.Разанава, неўзабаве ён вызнае тое часовае захапленне памылковым (бо лічыць, *"што гэты шлях — зашпілены замок"*). Агулам жа паэт шмат часу і творчых сіл патраціў на само вызначэнне (пісанне) верша, як такога, а не на самавызначэнене (тварэнне і здарэнне) паэіі. Адсюль (а мажліва і наадварот) у яго ўзмацнілася вычуванне крытычнай логікі, што ў рэшце рэшт прывяло да пазітыўнай самакрытычнасці (нярэдка празмернай і паказной). Вось, да прыкладу, некаторыя з высілкаў тлумачэння ўласных вершаў: *"Яны —/ толькі манеткі,/ якімі я плаціў за жыццё"*, *"ад верша да верша/ будую дзіўную вежу"*, *"Вершы мае./ Іх столькі многа,/ як пяску у пустыні./ Будую з іх кнігу"*, *"Вершы,/ прыгожыя халодныя вершы"*, *"Сказаць,/ што я пісаў крывёй,/ было б, магчыма, паэтычна,/ ды няпраўда" і г.д.*

У.Гарачка безумоўна таленавіты літаратар (між іншым, актыўна вызначаецца ён яшчэ ў неардынарнай крытыцы і эсэ). Лепшыя яго вершы (найчасцей чамусьці хочацца называць іх усё ж вершаванымі тэкстамі), як тое ні дзіўна, сярод творцаў яго пакалення найбольш поўна выяўляюць хаатычны характар постсавецкай эпохі і сучаснага чалавека ўвогуле.

*Вецер*
*Змагаецца з дрэвам*
*За крону,*
*Як за карону,*
*Бо нядольны*
*Сасною звычайнай*
*Стаць,*
*Крону —*
*Як веру, прыняць.*

Колькі трапных нязмушаных дэталяў, і які пазнавальны метафарычны вобраз сённяшняй рэчаіснасці! І хоць нацыянальнае ў вершах У.Гарачкі ўнутрана прыхаванае, не выпуклае, не публічнае, не апазіцыйна-крыклівае, аднак востра-адчувальнае, як дробна-рабрыстая галька пад нагамі ў прыцененай рачной вадзе... Гэтак жа ненавязлівыя і яго вершы пра каханне, хіба што стамляючыя сваімі аднастайнымі прысвячэннямі, што па традыцыі не ўзбагачае вобраз самога паэта ў чытача...

На мой погляд, гэта адна з найбольш вартых і адметных дэбютных кніжак апошняга часу, хоць, паўтаруся, як для дэбюту (а найперш для аўтара), напэўна, крыху запозненая. Завяршу цытатай найбольш уражлівага:

*Вастрыё нажа*
*Не пакідае сабе*
*Нічога.*

Аднак **пакінутае** некаму ўсё ж застаецца.




**Вольга РУСІЛКА.** *"Ажына"* **(вершы; Мінск, "Мастацкая літаратура", 2004, рэдактар В.Шніп, 1000 экз., 70 ст.)**

Мне спадабаліся і фармат, і простае мастацка-вобразнае афармленне гэтай кніжкі, і ўсё, што ў ёй напісана. Нішто там не выходзіць за прынятыя межы вершаскладання, ніводзін вобраз не *ходзіць* па лязу алагічнай думкі, ні адзін сюжэтны ход не збіваецца са свайго шляху нечаканым няўзгодненым метафарычным тропам... Ёсць вершы пра любоў да Айчыны, да сваёй маці, да сяброў сваіх, да ўсяго свайго прамінулага: "ад любові да роднага краю,/ *да малой, да маленькай радзімы*", дзе *"Святло далёкае/ у вузенькім акенцы/ і цэлы свет/ у рамачцы дзіцячай — / мама..."*

Найбольшая ж аблога кніжкі аддадзена спрадвечнай тэме нераздзеленага кахання. Тут ёсць безумоўныя набыткі і небясспрэчныя страты. Як у гэтым вось трыялеце:

*Не бітая ні мужам, ні жыццём,*
*Жыву ў заўсёдным прадчуванні болю.*
*Якраз таму, што па усмешцы долі*
*Не бітая ні мужам, ні жыццём.*
*Ці хопіць мне цярплівасці і волі,*
*Калі калоссе станецца асцём?*
*Не бітая ні мужам, ні жыццём,*
*Жыву ў заўсёдным прадчуванні болю.*

Цяжка і наўрад ці варта мужыку, няхай сабе і з пэўным вопытам, улазіць у жаночыя душэўныя непаразуменні. Лепш за тым спагадліва паназіраць са свайго, таксама ж незайздроснага, мужчынскага боку. І тады іранічны верш В.Русілкі, магчыма, успрымецца абсалютна паразумела:

*Пад спакойнае мужава дыханне*
*Вершы пішуцца неяк не ўсур'ёз.*
*Без усякіх асаблівых намаганняў*
*І прывычных для лірыкі слёз.*

Якая ж тут іронія? Дай Божа, каб толькі так яно і было. А не гэтак, да прыкладу:

*Ну і хопіць. Так нагаравала,*
*Што ажно і ў таліі схуднела.*
*Па табе паплакала нямала,*
*Дзесяць дзён цукерачкі не ела.*

Хоць, шчыра кажучы, зборнік Вольгі Русілкі *"Ажына"* нічым не горшы за шмат якія, раней прачытаныя мной, вершаваныя кніжкі. У ім можна знайсці ўсё тое, што я знаходзіў у тых кніжках і яшчэ не раз, пэўна, знайду ў многіх іншых...

Але ж не вядомага я шукаў у ім, а — **свайго, новага і непаўторнага... Паэзіі.** Апошнім часам у гэтым мне, на жаль, не так часта шанцуе. Аднак здараецца. Як у гэтым выпадку:

*Каторы раз ратуюць вершы...*
*А мо яны і лёс мой вершаць?*
*Збыліся прадчуванні і прароцтвы,*
*Вось толькі шчасце...*
*Дзе яно і з кім?*
*Я сэрца словам разняволю*
*І падману усмешкай долю,*
*І шчаслівейшай між паэтак*
*прачнуся ў верасні сваім.*
*Што ж, як пісаў класік, "і дай вам Бог..."*





**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў**

**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР**

**Анатоль КАЗЛОЎ**

**Рэдакцыйная рада:**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**

**Леанід ГАЛУБОВІЧ,**

**Наталля ДЗЯНІСАВА,**

**Віктар КАВАЛЁЎ,**

**Вольга КУРТАНІЧ,**

**Віктар ПАТАПЕНКА — намеснік галоўнага рэдактара**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**галоўны рэдактар — 284-66-73**
**намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73**

**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-79-65**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-81-53**
**паэзіі, літаратурнага жыцця, крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04**
**прозы — 284-66-73**
**музыкі, тэатра, кіно і выяўленчага мастацтва — 284-81-53**
**бухгалтэрыя — 284-66-72**
**Тэл./факс — 284-66-73**

*Электронны адрас:*
**e-mail: minsk@lim.by**

*Адрас у Інтэрнеце —*
***www.lim.by***

Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 2385
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 25.08.2004 у 11.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ — 1252

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12